…СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published by the Byelorussian American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№. 329 Год выд. XXXV | Красавік-жнівень 1986 г.

## ЧАРНОБЫЛЬ — ТРАГЕДЫЯ БЕЛАРУСІ

Катастрофа на атамнай электрастанцыі ў Чарнобылі на Ўкраіне на досьвітку 26 красавіка 1986 г. можа выявіцца найбольш згубнай для Беларусі з прычыны блізкое дыстанцыі й кірунку вятроў. Электрастанцыя знаходзіцца ўсяго пяць кілямэтраў на поўдзень ад беларуска-ўкраінскае мяжы.

Газэта «Известия» (20.V) у артыкуле свайго карэспандэнта М. Матукоўскага падала словы начальніка грамадзянскае абароны Гомельскае вобласьці капітана Д. Жукоўскага: «Мы стварылі свой штаб у Хойніках, бо колькі вёсак у гэтым (Хойніцкім — рэд. «Б-са») раёне знаходзяцца ў радыюсе 5-7 км. па простай лініі ад чарнобыльскае АЭС» (атамнае электрастанцыі — рэд. «Б-са»). Газэта «Советская Белоруссия» (23.V) пісала пра вёску Чамкова, што яна знаходзіцца «якіх-небудзь пяць кілямэтраў ад /чарнобыльскае/ электрастанцыі».

Вятры ў дзень выбуху й першымі днямі аварыі дзьмулі з поўдня, значыцца радыяцыя пайшла з Чарнобыля на Беларусь (захапіўшы й Беласточчыну), Прыбалтыку й дайшла аж да Швэцыі. Швэды й змусілі Савецкі Саюз прызнацца да факту аварыі на трэйці дзень пасьля таго як яна здарылася. Кірунак спачатнага і, трэба прыпушчаць, найбольш інтэнсыўнага радыяактыўнага воблака паказаны на схэматычнай карце газэты «Нью-Ёрк Таймс» (29.IV).




Эвакуацыя жыхарства на Беларусі, мяркуючы із спозьненых ды супярэчлівых паведамленьняў савецкіх уладаў, была масавая, запозьненая й хаатычная.

Спачатку савецкія ўлады гаварылі пра 84 тысячы ўсіх эвакуаваных. Тады лік быў узьняты да 92 тысячаў. Колькі з гэтае масы людзей прыпадала на Беларусь, выявілася ўпяршыню ў паведамленьні газэты «Известия» 19-га травеня. Газэта падала, што 26 тыс. людзей былі эвакуаваныя з «зоны найвышэйшае радыяцыі» ў паўдзённай Беларусі.

Першымі днямі чэрвеня заходнія органы друку шырака пісалі пра інтэрвію, якое далі газэце «Правда» (5.VI) Аляксандар Пятроў і Мікалай Мазай, намесьнікі Старшыні Савету Міністраў БССР. Маскоўскі карэспандэнт газэты «Манчэстэр Гардыен» Мартын Ўокер, падаючы пра гэтае інтэрвію, пісаў:

«Шэсьць тыдняў па чарнобыльскай катастрофе савецкія ўлады прызналіся, што праграма эвакуацыі была куды больш шырокай, а зона радыяцыі шмат больш пашыранай на поўнач, як пра гэта падавалася раней.

«Шэсьцьдесят тысячаў дзяцей былі эвакуаваныя з Гомельскае вобласьці Беларускае рэспублікі. Гомель — горад з жыхарствам 350.000 людзей, каля 150 кілямэтраў на поўнач ад Чарнобыля — ляжаў на шляху галоўных вятроў першымі днямі, калі рэактар электрастанцыі пачаў вырыгваць радыяцыю».

У тым самым нумары «Правды» было зьмешчанае выказваньне міністра аховы здароўя БССР Саўчанкі аб тым, што першымі днямі па аварыі «шмат якія ўрадаўцы й грамадзяне выявілі абыякавасьць і элемэнтарную мэдычную няпісьменнасьць» у рэагаваньні на катастрофу.

Газэта «Лібр Бэльжык» (5.VI), таксама пішучы пра інтэрвію зь Пятровам і Мазаем у «Правде», зазначыла: «Трэба падкрэсьліць, што ўся гэтая інфармацыя аб ядзернай забруджанасьці на поўдні Беларусі падаецца да публічнага ведама больш як зь месячным спазьненьнем ад часу зьяўленьня першых афіцыйных вестак у савецкім друку».

Але й больш як месяц па выбуху ў Чарнобылі савецкія чыноўнікі не маглі ўзгодніць, або проста не маглі ўстанавіць дакладных памераў катастрофы. Што да Беларусі, дык яшчэ 6-га чэрвеня (паводля Ройтэра) заступнік Старшыні Савету Міністраў СССР Юры Баталін казаў, што ў Беларусі было эвакуавана «каля 20 тыс. людзей.

Ройтэру было незразумела, ці гэныя 20 тыс. станавілі дадатковы лік да папярэдніх 92-х тысячаў, ці не. Карэспандэнт Ройтэра, відаць, сумляваўся, бо ў тым-жа паведамленьні, спасылаючыся на газэту «Советская Белоруссия» з 3-га чэрвеня, падаў, што зь 50 населеных пунктаў на Беларусі ў радыюсе 130 кілямэтраў людзі былі эвакуаваныя. Колькі было эвакуавана, «Советская Белоруссия» не напісала.

Ня ведамыя таксама й памеры страты здароўя. Савецкія ўлады заявілі адно, што беспасярэдня ад выбуху на электрастанцыі памерла 26 асобаў, зь іх 2 ад выбуху, а 24 — ад радыяцыі.

Якая-ж была рэакцыя ўладаў БССР і рэспубліканскага друку на чарнобыльскую аварыю? З таго, што нам ведама, выглядае, што ўлады ў Менску змушаныя былі азірацца на Маскву й не даваць розгаласу таму, што дзеелася на поўдні рэспублікі.



**Тэрыторыі найбліжэйшыя да пашкоджанага рэактара**

Лёнданскі «Таймс» (6.V) на адзінаццаты дзень па аварыі пісаў з Масквы пра Менск: «Хоць дзіцячым садком было загадана трымаць вокны зачыненыя і вучням забаронена гуляць надвары, жыцьцё ў Менску, беларускай сталіцы, ідзе далей, не закранутае ядзернай катастрофай у Чарнобылі».

Паводля заходніх экспэртаў, пісаў «Таймс», Менск моцна ўцярпеў ад радыяцыі, і ягонаму жыхарству, якога налічваецца міліён 250 тысячаў, трэба было адразу-ж падаць адпаведную інфармацыю ў гэткіх справах, як ня піць малака й падобнае. У сувязі зь небясьпекай, якая вытварылася на Беларусі, зь Менску, як падаў «Таймс», былі адкліканыя 27 брытанскіх студэнтаў, што знаходзіліся там.

Што да рэспубліканскіх газэтаў, дык роля іхная была ня гэтулькі, каб памагчы эвакуацыі, колькі, каб прыкрыць тую разгубленасьць уладаў і хаатычнасьць дзеяньняў, пра якія казаў у «Правде» міністар аховы здароўя БССР Саўчанка, ды адначасна круціць далей кола прапаганды супраць Захаду, абвінавачваючы заходніх карэспандэнтаў ў выкрыўляньні фактаў.

Беларускія рэспубліканскія газэты сваіх собскіх паведамленьняў пра аварыю не падавалі аж да 7-га травеня ўлучна, зьмяшчалі толькі ляканічныя заявы ТАССу. Ячшэ 7-га травеня, на 12-ты дзень па выбуху ў Чарнобылі, два галоўныя органы друку БССР, газэты «Зьвязда» й »Советская Белоруссия», зьмясьцілі паведамленьне ТАСС зь Кіеўскае вобласьці пад бадзёрым загалоўкам «Мацней за атам». І толькі на 13-ты дзень чытачы «Зьвязды» й «Советской Белоруссии» ў карэспандэнцыі пад загалоўкам «Чужой беды ня бывае» даведаліся й пра сваю бяду — пра тое, што ў Хойніцкім і Брагінскім раёнах была праведзеная масавая эвакуацыя, што там «загэрмэтызаваныя ўсе калодзежы», што на Брагіншчыне адбываліся «стыхійныя вулічныя сходы».

Пэўна-ж, адбываліся тыя «стыхійныя сходы» не на 12-ты й не на 10-ты дзень па аварыі ў Чарнобылі, а раней, але на каторы, менскія карэспандэнты сьхітравалі не сказаць.

Газэты БССР спачатку пісалі пра два раёны, ахопленыя небясьпечным узроўнем радыяцыі (Хойніцкі й Брагінскі), пасьля — пра тры раёны, нарэшце прызналіся, што павышаная радыяцыя была зарэгістраваная ў сямёх раёнах рэспублікі.

Нідзе аднак у савецкім друку, ні ў рэспубліканскім ні ўва ўсесаюзным, ня было сказана канкрэтна, *якой інтэнсыўнасьці* была радыяцыя. Ня ведама дзеля гэтага й якія могуць быць вынікі яе на гады наперад для жыхарства навакольных раёнаў і вобласьцяў. Але, як відаць з усяго, вынікі гэтыя цяпер ужо жудасныя ў сувязі з масавым высяленьнем, а ў будучыні могуць прывесьці яшчэ й да масавых зхворваньняў, маштабаў якіх ніхто ня ведае.

**Янка Запруднік**

## ПРАТЭСТ КАНАДЗКАМУ ТЭЛЕБАЧАНЬНЮ

Калі ў заходніх сродках інфармацыі выбухнула навіна пра катастрофу ў Чарнобылі, якая была адначасна й катастрофай Беларусі, шмат хто зь Беларусаў у ЗША й Канадзе (а магчыма і ў іншых краінах) абураўся, што газэты й тэлебачаньне мала гаварылі пра Беларусь. У гэткіх выпадках найлепш рэагаваць пісьмова, як гэта зра-

*(Заканчэньне на б. 2-й)*

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly

**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Дваццаць сёмы год ужо Злучаныя Штаты адзначаюць Тыдзень Паняволеных Народаў, прызначэньне якога — падтрымваць змаганьне за свабоду індывідуальную й нацыянальную, за правa народаў на самавызначэньне. Традыцыя гэтая была запачаткаваная ў 1959 годзе пастановаю Кангрэсу ЗША. У кангрэсавай пастанове аб Тыдні Паняволеных Народаў, у пераліку паняволеных краёў, згаданая таксама й Беларусь.

Кангрэсавая пастанова ўпаўнаважвала й прасіла прэзыдэнта Злучаных Штатаў абвяшчаць штагоду трэйці тыдзень ліпеня Тыднем Паняволеных Народаў. Ад 1959 году ўсе прэзыдэнты штагоду просьбу гэтую выконвалі.

У сваёй сёлетняй праклямацыі Тыдня Паняволеных Народаў Прэзыдэнт Рэйган гаворыць пра дэвіз, якога трымаецца Амэрыка, а гэта — што кожны чалавек мае неад'емныя правы й права на людзкую годнасьць. Дэвіз гэты ўключае ў сабе супраціў якім-бы ні было формам уціску й дэспатызму. «Свабода непадзельная, — кажацца ў прэзыдэнцкай праклямацыі. — Каб мы маглі захоўваць свабоду ў сябе, мы мусім бараніць яе й для іншых».

У сваёй сёлетняй дэклярацыі Прэзыдэнт Рэйган прыгадвае абвешчаньне ў 1941 годзе Прэзыдэнтам Рузвэльтам чатырох асноўных свабодаў для цэлага сьвету: свабоды слова, свабоды кожнаму маліцца на свой лад, свабоды ад нястачаў і свабоды ад страху.

«Свабоды гэтыя, — кажацца ў праклямацыі Прэзыдэнта Рэйгана, — былі маяком для тых, хто шукаў прытулку ў Амэрыцы, і для тых, чые імкненьні да самавызначэньня былі здушаныя Савецкай імпэрыяй. У гэткіх краёх людзі сталіся ахвярамі жорсткіх рэжымаў, угрунтаваных на таталітарных ідэялёгіях. Народы гэтыя паняволеныя сіламі, варожымі свабодзе, варожымі справе незалежнасьці й нацыянальнага самавызначэньня. Да ліку гэткіх належаць паняволеныя народы Ўсходняе Эўропы, якія дзесяцігодзьдзямі перажываюць камуністычную тыранію, а таксама тыя, што змагаюцца з камуністычнай дамінацыяй у Лацінскай Амэрыцы. І народ Афганістану, народы ў Паўдзённа-ўсходняй Азіі і ў Афрыцы, што вядуць змаганьне супраць замежных інтэрвэнтаў, супраць ваенная акупацыі ды камуністычнага ўціску.

«Штагоду, — кажацца далей у дэклярацыі Прэзыдэнта Рэйгана, — мы абнаўляем нашую наважанасьць падтрымваць змаганьне за свабоду па цэлым сьвеце, адзначаючы Тыдзень Паняволеных Народаў. Гэта — тыдзень, калі Амэрыканцам нагадваецца, што тыя вольнасьці й свабоды, якімі яны карыстаюцца, адмоўленыя шмат якім народам. Гэтым ушанаваньнем мы спадзяёмся натхніць тых, хто змагаецца супраць ваенных акупацыяў, палітычнага ўціску, камуністычнае экспаньсіі ды таталітарнае жорсткасьці. Мы імкнёмся натхняць, але мы таксама й шукаем натхненьня. Бо гісторыя свабоды — гэта гісторыя супраціву, мы вучымся ад тых, хто жыве там, дзе змаганьне найбольш пільна патрэбнае. Ачышчаныя супраціваm, яны паказваюць нам шлях да аднаўленае адданасьці справе захаваньня нашых собскіх свабодаў і да падтрымваньня ды падбадзёрваньня тых, што змагаюцца за волю».

З нагоды Тыдня Паняволеных Народаў у Белым Доме адбылася цырымонія абвешчаньня праклямацыі. З прамовай перад прадстаўнікамі розных нацыянальных арганізацыяў Амэрыкі выступіў Прэзыдэнт Рэйган. Рэйган сказаў, што абавязак амэрыканскага грамадзтва, якое складаецца з прадстаўнікоў самых розных народаў, пільнаваць ня толькі сваіх уласных інтарэсаў, але й падтрымваць на духу мільёны людзей, што жывуць пад прыгнётам.

«Каб быць вернымі самым сабе, — сказаў Прэзыдэнт Рэйган, — мы мусім быць вернымі ім».

Гаворачы пра дачыненьні паміж Злучанымі Штатамі й Савецкім Саюзам, Прэзыдэнт Рэйган сказаў, што дачыненьні могуць быць палепшаныя, але не заплюшчваньнем вачэй на разыходжаньні, а ставячыся тварам да гэтых разыходжаньняў.

Ува ўсіх імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў у Нью-Ёрку Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне брала актыўны ўдзел.

## ПЕРАД ВЕНСКАЙ КАНФЭРЭНЦЫЯЙ

**5-га чэрвеня сёлета ў Нью-Ёрку адбылася нарада, скліканая кіраўніком амэрыканскае дэлегацыі на Венскую канфэрэнцыю сп. Ўорэнам Зымэрманам. На нараду былі запрошаныя прадстаўнікі амэрыканскіх арганізацыяў Амэрыкі народаў Усходняе Эўропы, у тым ліку й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Мэтай нарады было абмеркаваньне палітычнага палажэньня й стану грамадзянскіх свабодаў у Савецкім Саюзе й сатэлітных дзяржавах. На Венскай канфэрэнцыі, якая пачне сваю працу ў лістападзе сёлета, будуць разглядацца праблемы бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе, г. зн. ужыцьцяўляньне Гэльсінскіх Пагадненьняў, у тым ліку й абарона правоў чалавека.**

**У нарадзе ўзяў удзел старшыня БАЗА сп. Антон Шукелайць. Сп. Шукелайць асабіста перадаў амбасадару Зымэрману матар'ялы ў справе беларускага вязьня сумленьня Міхала Кукабакі.**

## ДЫЯКАН УЛ. РУСАК АРЫШТАВАНЫ

Праваслаўны дыякан Уладзімер Русак, прапаведзь якога, сказаную ў віцебскай царкве ў 1982 г., зьмясьціла газ. «Белрус» (№ 312, жнів.-вер. 1983 г., быў арыштаваны ў Маскве 22 красавіка сёлета. Вестку пра гэта падала лёнданская арганізацыя Кестан Коледж, якая сочыць ход рэлігійных справаў у камуністычных краёх.

## СЭНАТАРЫ ПРА М. КУКАБАКУ

У адказ на лісты да іх Галоўнае Ўправы БАЗА амэрыканскія сэнатары Даніэль Мойнігэн (штат Нью-Ёрк), Эдвард Кенэды (Масачусэтс), Пол Сарбэйнс (Мэрылbackend) і Пол Сайман (Іліной), а таксама кангрэсмэн Дантэ Фасэл (Флярыда) паведамілі старшыні БАЗА сп. Антону Шукелайцю, што яны будуць рабіць усе магчымыя захады, каб беларускі іншадумец і палітычны вязень у Савецкім Саюзе Міхал Кукабака быў выпушчаны на волю.

Сэнатар Мойнігэн пісаў у справе Кукабакі амэрыканскаму паслу ў Маскве Гартману, і з пасольства паведамілі, што тымчасам зьменаў савецкае палітыкі ў галіне правоў чалавека ня відаць, але стараньні аб вызваленьні Кукабакі будуць рабіцца далей.

Сэнатар Сайман паведаміў, што ён пісаў у справе Кукабакі савецкаму прадстаўніку ў Вашынгтоне Кузьняцову і генэральнаму сакратару КПСС М. Гарбачову.

Сэнатар Кенэды ў сваім лісьце напісаў: «Я запэўняю Вас, што буду далей рабіць намаганьні ад імя ўсіх тых, хто імкнецца ўжыцьцёвіць сваё асноўнае права на свабоду эміграцыі, у тым ліку й ад імя Міхала Кукабакі... Я ўхваляю вашыя высілкі ў змаганьні за свабоду Беларусі і за ўжыцьцёўленьне людзкіх правоў, аб якіх гаворыцца ў Гэльсінскіх Пагадненьнях».

Сэнатар Сарбэйнс паведаміў, што ён напісаў у справе Кукабакі савецкаму паслу ў Вашынгтоне і заклікаў савецкія ўлады даць свабоду «вязьню сумленьня Міхалу Кукабаку».

**Лёнданская газэта «Таймс»** 4 сакавіка сёлета, у рубрыцы «Вязьні сумленьня», зьмясьціла артыкул пра беларускага іншадумца Міхала Кукабаку, які адбывае цяпер свой паўторны тэрмін зьняволеньня ў лягерох прымусовае працы ў раёне Пермі. Кукабака апошні раз быў засуджаны ў 1984 годзе і тэрмін ягонага зьняволеньня, паводля «Таймсу», можа пратрываць 12 гадоў — максымум за «антысавецкую агітацыю й прапаганду», у якой быў абвінавачаны беларускі іншадумец.

Кукабака, якому сёлета споўніцца 50 гадоў, знаходзіцца ў савецкім зьняволеньні ад 1969 году.

Справа Кукабакі была перададзеная галоўнаю ўправаю БАЗА ў чэрвені сёлета амэрыканскай дэлегацыі, якая паедзе ў лістападзе на Венскую канфэрэнцыю, на якой будуць разглядацца справы ўжыцьцяўляньня Гэльсінскіх пагадненьняў.

## НА ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў ЛЁНДАНЕ

У сувязі зь ядзернай катастрофай у Чарнобылі на Ўкраіне Саюз Украінцаў у Брытаніі (СУБ) правёў у Лёндане 11-га траўня масавую дэманстрацыю, якая пачалася прамовамі ў Гайд-Парку прадстаўнікоў СУБ ды іншых нацыянальных арганізацыяў. У дэманстрацыі ўзялі ўдзел і Беларусы, некаторыя прыбыўшы за 200 міляў з гор. Лідс. Беларускі прамоўца выступаў адразу за ўкраінскімі. На асаблівую ўвагу заслугоўвае выступленьне сябры брытанскага Парлямэнту сп. Тарлецкага (украінскага паходжаньня). Сп. Тарлецкі сказаў, між іншага, што калі два месяцы да чарнобыльскае аварыі ён быў у Кіеве, дык на вуліцах гораду ня чуў украінскае мовы, што сьветчыць пра поўную русыфікацыю.

Шматтысячная дэманстрацыя прайшла пасьля перад будынкам савецкага пасольства, дзе былі пакладзены вянок у памяць ахвяраў ядзернае трагедыі.

**А. З.**

## ІНШАДУМЕЦ МІХАЛ ЦІМАШЭНКА

Электразваршчык з Гомеля Міхал Цімашэнка, Беларус, стаўся яшчэ аднэй ахвярай перасьледу з боку савецкіх уладаў за тое, што адмовіўся браць удзел у выбарах ды задаваў на грамадзкіх сходах пытаньні гэтак званага «антысавецкага» характару. Каб пазбавіцца ад перасьледу, М. Цімашэнка напісаў заяву ў Камісію правоў чалавека ААН. Тэкст заявы (напісанае парасейску) і далучаныя да яе чатыры характарыстыкі зь месца працы трапілі ў бюро сэнатара зь Нью-Ёрку Альфонса Д'Амата, які паінфармаваў аб справе М. Цімашэнкі галоўную ўправу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Сэнатар Д'Амата займае становішча старшыні амэрыканскае ўрадавае Камісіі да Справаў Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе. Заданьне Камісіі — спрыяць ужыцьцяўляньню Гэльсінскіх пагадненьняў, якія прадбачаць таксама свабоду эміграцыі.

Міхал Цімашэнка Арсеневіч нарадзіўся ў 1930 годзе. Жыве ў Гомелі на вул. Крайняй 66. У сваёй заяве ў Камісію правоў чалавека ААН (з датаю 3.VI. 1986 г.) Цімашэнка просіць памагчы яму «вызваліцца ад зьдзеку». Ён хоча эміграваць на Захад.

## НА ЎСЕЭЎРАПЕЙСКІМ ФОРУМЕ

Сп-тва Дзімітры і Надзея Касмовічы ўзялі ўдзел у зьезьдзе Ўсеэўрапейскага Саюзу (Панэўропа Уніён), які адбыўся ў Боне 2-4 траўня сёлета. На зьезд прыбыло каля 250 дэлегатаў з розных краінаў.

Усеэўрапейскі Саюз, заснаваны 60 гадоў таму, пашырае ідэю адзінства ўсіх народаў Эўропы на аснове прынцыпаў хрысьціянства, нацыянальнае свабоды й справядлівасьці.

Сёлетні зьезд меў за тэму «60 гадоў змаганьня за аб'еднаную Эўропу». Праца зьезду праходзіла ў трох сэмінарах. У сэмінары «Асновы Эўрапейскага Саюзу» з прамовай выступіў сп. Д. Касмовіч, зьвярнуўшы ўвагу ўдзельнікаў зьезду, што справядлівасьць і адзінства ў Эўропе могуць існаваць толькі тады, калі *ўсе* народы, ува ўмовах свабоды, дабраахвотна злучацца ў эўрапейскую еднасьць. Прамоўца зазначыў, што запраўднага эўрапейскага адзінства ня можа быць датуль, пакуль ня будуць свабодныя паняволеныя Масквою Беларусь, Украіна ды іншыя народы Ўсходняе Эўропы.

У сэмінары «Правы эўрапейскіх народаў — уклад у справу міру» зь інфармацыяй пра Беларусь выступіла сп-ня Н. Касмовіч-Міцкевіч. Яна гаварыла пра беларускі народ пары Полацкага княства, ролю беларускае мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім, пра перыяд уціску Беларусі Масквою й Варшаваю ды пра цяперашняе паняволеньне беларускага народу савецкім русыфікатарскім і атэістычным рэжымам.

## ПРАТЭСТ ТЭЛЕБАЧАНЬНЮ

*(Працяг з б. 1-й)*

біла галоўная ўправа Згуртаваньня Беларусаў Канады. Старшыня ГУ ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч напісала ліст у Канадзкую Вяшчальную Карпарацыю з пратэстам і тлумачэньнем.

На ліст ЗБК прыйшоў адказ. У лісьце сказана: «Праверка тэлевізійных і радыёвых навінаў паказала, што ў нашых паведамленьнях мы згадвалі Беларусь і ейную сталіцу Мінск... Мы Вас запэўняем, што ніякае дыскрымінацыі Беларусі ня было ды што была адразу-ж зьвернутая ўвага службоўцаў, адказных за падаваньне навінаў, на Вашую ўстурбаванасьць».

# САКАВІКОВЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ

## У НЬЮ-БРАНСЬВІКУ

Селёта сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці Беларусі было ладжанае супольна аддзеламі БАЗА Нью-Ёрк і Нью-Брансьвік 23 сакавіка. Кіраўнічую ролю ў наладжаньні ўрачыстасьці выконваў старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі сп. Юрка Азарка. Моладзь наагул сёлета ўзяла больш актыўны ўдзел. Працавалі над правядзеньнем сьвята Галоўная Ўправа БАЗА і вэтэранская арганізацыя.

Сьв. літургію й малебен адслужыў а. Аляксандар Яноўскі ў царкве Жыровіцкае Маці Божае ў Гайленд-Парку. Папаўдні ў залі гатэлю «Гаят» адбылася акадэмія, якую адчыніў старшыня ГУ БАЗА сп. Антон Шукелайць ды якую далей вялі сп-чна Ірэна Азарка і сп. Вячаслаў Станкевіч. Рэфэрат пабеларуску прачытала сп-чна Раіса Станкевіч, а паангельску — сп. Ю. Азарка.

Дзень 25 сакавіка быў абвешчаны губэрнатарамі штатаў Нью-Ёрк і Нью-Джэрзы «Беларускім Днём». Тэксты праклямацыяў былі прачытаныя на сьвяткаваньні сп-чнай Таняй Шульжыцкай і сп. Паўлам Раманам. Старшыня штатнага Этнічнага Камітэту з Мэрыленду сп. Васіль Мельяновіч у сваім выступленьні гаварыў пра патрэбу далейшай акцыі за ўлучэньне беларускае мовы ў передачы «Голасу Амэрыкі». З прывітаньнем удзельнікаў сьвяткаваньня выступіў кіраўнік Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў сп. С. Гутырчык, а таксама кіраўнік мясцовае арганізацыі амэрыканскіх вэтэранаў сп. Джэром Т. Балі. Былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні.

У мастацкай частцы праграмы вельмі ўдала выступілі танцаўнікі ансамблю «Васілёк» зь беларускімі народнымі танцамі й сп. Данчык Андрусышын з дэклямацыяй вершу Натальлі Арсеньневай «Моладзі».

Сп-ні Тамара Кольба й Галіна Русак наладзілі ў залі сьвяткаваньня прыгожую выстаўку беларускага мастацтва, на якой прадаваліся таксама беларускія кнігі.

Ансамбль «Васілёк» таго-ж самага дня ўзяў удзел у сакавіковай урачыстасьці ў Саўт-Рывэры, якую ладзіў у сваім грамадзкім цэнтры Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі.

*(Паводля бюлетэню «Весткі і паведамленьні аддзелу БАЗА Нью-Ёрк» № 93)*

## У РЫЧМАНД-ГІЛЕ

68-ю гадавіну абвешчаньня незалежнасьці БНР Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью-Ёрку адзначыла 6 красавіка 1986 году. Багаслужбу служыў а. Усевалад Шамяціла, хорам кіраваў сп. Сымон Жамойда.

Сьвяткавальную акадэмію, якая адбылася ў залі Грамадзкага Цэнтру, вёў сп. Канстантын Мерляк, старшыня БАА. Сп. Васіль Шчэцька прачытаў рэфэрат на тэму дня. Праклямацыю губэрнатара штату Нью-Ёрк Марыё Куомо аб абвешчаньні 25 сакавіка Беларускім Днём у штаце прачытала сп-чна Дарота Рыжы, а сп. Віктар Тур прачытаў падобную праклямацыю мэра гораду Нью-Ёрку Эдварда Коча. Сп. Мерляк прачытаў праклямацыю губэрнатара штату Пэнсыльваньня ды некаторыя пісьмовыя прывітаньні.

Асабіста віталі сход сп. М. Сенька ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі ды сп. Ал. Міцкевіч ад галоўнае ўправы й ньюёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Па афіцыйнай частцы адбыўся супольны абед, у часе якога рэклямавалася й прадавалася (сп-няй В. Бартуль і сп. Ул. Русаком) новая кружэлка й касэтка зь песьнямі Данчыка, а таксама прадаваліся (сп. Ул. Пелясом і сп-няй К. Юрцэвіч) білеты на лятарэю, якая пасьля была разыграная.

З двума народнымі танцамі («Лявоніха» і «Мікіта») выступілі тры пары (малая сцэна) танцавальнага ансамблю «Васілёк», зь якім вядзе працу з добрымі вынікамі, сп-ня Ала Орса-Рамана. **В.Ш.**

## У ЛЁС-АНДЖЭЛЕСЕ

Сьвяткаваньне, якое ладзіў сьвяткавальны камітэт пад кіраўніцтвам сп. Ч. Найдзюка і А. Я., адбылося 23-га сакавіка. Вёў акадэмію сп. Найдзюк. Была ўшанаваная памяць Біскупа Ўладзімера Тарасэвіча, др. Станіславы Ярашэвіч, Пётры Ерміна, Алекса Шэлеста, Міколы Кунцэвіча, Янкі Ніхаёнка, Аляксандра Калодкі й др. Юркі Геніюша.

Прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў прачытала сп-ня Юзя Найдзюк, ад амэрыканскіх установаў — інж. Юрка Станкевіч. Сярод тых, што віталі пісьмова ўдзельнікаў сьвята, быў губэрнатар штату Каліфорнія Джордж Дэўкмэджыян, кангрэсмэн Даніель Люнгрэн, штатны сэнатар Робэрт Бэвэрлі, сябра каліфарнійскае Асамблеі Джэральд Фэлянда.

Зьмястоўны рэфэрат паангельску прачытала сп-чна Карнэля Найдзюк. З дэклямацыямі беларускіх вершаў выступілі сп. Ч. Найдзюк, сп-ня Каця Вініцкая й сп-ня Вера Вуіч (Блоцкая).

*(Паводля бюлетэню «Весткі і паведамленьні аддзелу БАЗА Нью-Ёрк» № 93)*

## У МЭЛЬБУРНЕ

Угодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, арганізаваныя прыходам БАПЦ і Беларускім Цэнтральным Камітэтам, былі адзначаныя 23 сакавіка. Літургію й малебен за Беларускі Народ служыў а. А. Кулакоўскі. У прыцаркоўнай залі быў зладжаны сіламі сястрыцтва супольны абед, у часе якога прамаўляў а. Кулакоўскі. Старшыня парафіяльнае рады сп. А. Кажура прачытаў кароткі рэфэрат, а гурток «Каліна» (кіраўнік сп. Т. Басарыновіч) прыгожа выканаў пад акампанімэнт гітараў тры беларускія народныя песьні.

Папаўдні ў Беларускім Доме адбылася акадэмія. Адчыніў яе сп. М. Скабей, прачытаў атрыманыя з ЗША, Канады, Ангельшчыны ды Аўстраліі прывітаньні. Сп. М. Нікан вітаў ад імя Рады БНР.

Зьмястоўны рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. П. Гуз. Па рэфэраце, у мастацкай частцы, вельмі кароткай, былі прачытаныя вершы Н. Арсеньневай і А. Гаруна. Сп. Скабей паінфармаваў аб дзейнасьці беларускіх студэнтаў у Польшчы. Пасьля гэтага, як заўсёды, адбыўся сяброўскі пачастунак. **М. Н.**

## У ПАРЫЖЫ

Невялікая беларуская грамада ў Парыжы адзначыла сёлета Сакавіковыя ўгодкі 13-га красавіка. Як і папярэднімі гадамі, а. Аляксандар Надсон адслужыў багаслужбу, пасьля якое ў памешканьні беларускае рэлігійнае місіі на вул. Гравіе адбылася акадэмія й супольны пачастунак. **М.С.**

## У ЛЁНДАНЕ

Сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР тут адбылося 22-га сакавіка. Усё прайшло як і ў папярэднім годзе. Было сабрана сто фунтаў у Фонд БНР. **А.З.**

# ПРА ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД

Выдаваная ў Амэрыцы бальшавіцкая газэта «Новый Мир» у нумары за 5 красавіка 1918 г. паведамляла, бяручы весткі зь «Минской Газеты»:

«8-га сьнежня (1917 г. — рэд. «Б-са») ў Менску адчыніўся Ўсебеларускі Зьезд. Першыя два дні былі занятыя прывітаньнямі, якія пакрываліся выкрыкамі 'Няхай жыве Вольная Беларусь!' Аркестр граў беларускую марсэльезу 'Ад веку мы спалі' і беларускія гімны 'А хто там ідзе?' і 'Кроў нашу п'юць даўно ўжо каты'. Здарыўся на зьезьдзе невялікі скандал: выступіў Латыш і, абвесьціўшы, што ён — бальшавік, крыкнуў: 'Кіньце ваш сьцяг!' Узьняліся крыкі абурэньня, шум. 'Гасьця' вывелі з залі. Гэты інцыдэнт выклікаў вялікі выбух нацыянальнага захапленьня. Усе пакляліся трымацца сьцягу, а старэнькі генэрал Аляксееўскі, беларускі дзяяч, пад агульную авацыю пацалаваў сьцяг. Пасьля доўга падкідвалі на руках селяніна ў сьвітцы, які выступіў з прамовай. На зьезд прыбыла дэлегацыя чыгуначнікаў Лібава-Роменскай чыгункі і заявіла, што чыгуначнікі падначаляцца толькі беларускай уладзе.

«На пленарным пасяджаньні 9-га сьнежня сфармаваўся прэзыдыюм зьезду. На зьезьдзе выявіліся дзьве плыні: бальшавіцкая й агульна-сацыялістычная. У склад прэзыдыюму ўваходзяць прадстаўнікі абедзьвюх плыняў ды сялянаў. За старшыню зьезду выбраны старшыня Вялікай Беларускай Рады Рак-Міхайлоўскі. Таго-ж самага дня першы даклад прачытаў ведамы народаволец А.О. Бонч-Асмалоўскі, адзін з выдатнейшых дзеячоў на зьезьдзе, які быў абраны за ганаровага старшыню зьезду. Даклад ягоны быў на тэму зямельнага пытаньня. Дарэчы, Бонч-Асмалоўскі за сваю дзейнасьць неаднаразова засуджваўся й ссылаўся царскім урадам.

«На зьезьдзе прысутныя таксама беларускі пісьменьнік Я. Лёсік і паэт Прушынскі (Алесь Гарун).

«Усебеларускі Зьезд пастанавіў абвесьціць дом былога Дваранскага Сходу беларускай нацыянальнай маемасьцю». **В. Кіпель**

## СУПРАЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

Шырака чытаная савецкай інтэлігенцыяй маскоўсая «Литературная газета» (тыраж — 7 мільёнаў экз.) зьмясьціла ў нумары за 28.V.1986 г. артыкул менскага гісторыка Мікалая Сташкевіча пад заг. «Крывыя люстры». Сташкевіч, дарэчы, спэцыялізуецца на тэме БНР. У сваім даўгім артыкуле Сташкевіч піша пра дзейнасьць «былых здраднікаў», якія цяпер актыўнічаюць у «эміграцкіх нацыяналістычных 'навуковых' цэнтрах»: Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, БІНІМ у Канадзе, Крывіцкім Накуковым Таварыстве імя Ф. Скарыны, Вялікалітоўскім (беларускім) Фоньдзе імя Л. Сапегі, Англа-Беларускім Таварыстве ў Лёндане.

Сташкевіч спрабуе зьняпраўдзіць цьверджаньні пра зацiск беларускае нацыянальнае культуры ў БССР, русыфікацыю. «Бітва» за беларускую мову, пра якую пішуць на Захадзе, паводля Сташкевіча, «ад пачатку да канца выдумка, прапагандысцкі трук».

Сташкевіч скрытыкаваў выданую ў Мюнхэне ў 1983 г. «Анталёгію беларускай літаратуры» Ф. Нойрайтэра за тое, што ў кнізе зьмешчаныя таксама творы «нацыяналістычных пісьменьнікаў» Ф. Аляхновіча, К. Сваяка, Р. Крушыны, Н. Арсеньневай. Сташкевіч назваў шмат прозьвішчаў дасьледнікаў беларусаведы і журналістаў, якія, паводля яго, выкрыўляюць рэчаіснасьць у савецкай Беларусі.

Пішучы пра кніжку ангельскага аўтара праф. Арнольда Макміліна «Гісторыя беларускай літаратуры», Сташкевіч зазначыў: «Нам трэба быць гатовымі і далей весьці актыўнае, мэтасьціраванае наступальнае змаганьне супраць падобных ідэялягічных дывэрсіяў».

## СПРЭЧКА ПРА САВЕЦКАЕ ПРАДСТАЎНІЦТВА Ў ААН

Злучаныя Штаты Амэрыкі дамагаюцца, каб лік савецкіх дыпляматаў у ААН, цяпер найбольшы з усіх дзяржаваў, быў скарочаны з 275 асобаў да 170, каб гэтым зьменшыць дзейнасьць у Амэрыцы савецкага шпіянажу. У спрэчках, якія вынiклі з гэтага дамаганьня, на старонках амэрыканскага друку ўздымалася й пытаньне прадстаўніцтва Беларусі ды Ўкраіны ў ААН, тлумачыліся прычыны, чаму Савецкі Саюз мае ў ААН не адзін голас, а тры. Як прычына ўваходу Беларусі і Ўкраіны ў ААН найчасьцей называлася тое, што гэтыя дзьве рэспублікі пацярпелі шмат стратаў у часе нападу Гітлера на Савецкі Саюз (гл., прыкладам, «Нью-Ёрк Таймс», 12.III.86).

Паводля амэрыканскага саветалёга Адама Улама, Беларусі і Ўкраіне Сталін дамогся месца ў ААН, каб гэтым злагодзіць нацыяналізм у гэтых дзьвюх рэспубліках, які ўзмоцніўся ў гадох вайны.

## РЭЙГАНАЎ ДАРАДНІК ЧЫТАЕ ПАБЕЛАРУСКУ

Як падаў амэрыканскі папулярны тыднёвік «Ньюзўік» (11.XI.85), галоўны дараднік прэзыдэнта Рэйгана ў савецкіх справах, 56-гадовы Джэк Ф. Матлок Малодшы займаецца вывучэньнем савецкае гісторыі культуры. «Ньюзўік» падае выказваньне аднаго ўрадаўца пра Джэка Матлока: «Ён адзіны з тых, каго я ведаю, які чытае беларускую самвыдавецкую паэзію».

## ПРА БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

У паўгадовым рапарце Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША аб выкананьні Гэльсінкаўскіх пагадненьняў (рапарт абыймае пэрыяд ад 1-га красавіка да 1-га кастрычніка 1985 г.) адзначанае становішча беларускае нацыянальнасьці ў Польшчы. У рапарце сказана, што ўрад Польскай Народнай Рэспублікі афіцыйна не пярэчыць праваджаньню нацыянальна-культурнай беларускай працы, не пярэчыць будаваньню праваслаўных цэркваў, а цяжкасьці, якія Беларусы спатыкаюць, абумоўленыя мясцовымі ўмовамі й мясцовым апаратам. У дакумэнце зазначана аднак, што нацыянальна-культурная праца Беларусаў (ды іншых нацыянальнасьцяў) вядзецца вылучна стараньнямі самых Беларусаў, без дапамогі з боку ўраду ПНР.

## НА СЬВЯЦЕ Ў ПАЛЯКОЎ

У сядзібе польскага экзыльнага ўраду ў Лёндане 7-га травеня адбылося прыняцьцё з нагоды ўгодкаў Канстытуцыі 3-га Мая 1791 году. На прыняцьці было, запрошаных новым польскім Прэзыдэнтам Казімерам Саббатам, трох прадстаўнікоў ад Беларусаў. **А.З.**

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў КАНАДЗЕ

**Угодкі Сакавіковага Акту**

Сьвяткаваньне 68-х угодкаў абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі адбылося ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронце 23 сакавіка. Па багаслужбе адбылася акадэмія, якую вяла старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч. Вітаў сход Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч, даклад чытаў др. Барыс Рагуля.

Дзякуючы стараньням заступніка старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады сп. Паўлюка Пашкевіча, на працягу тыдня ад 23-га да 29-га сакавіка ля ратушы Таронта быў узьняты беларускі нацыянальны сьцяг. У дзень стваткаваньня беларускі й канадзкі сьцягі ўзьвіваліся каля будынку Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру.

**80-годзьдзе «Нашай Нівы»**

Згуртаваньне Беларусаў Канады заплянавала адзначыць 26 кастрычніка сёлета 80-я ўгодкі газэты «Наша Ніва». 80-годзьдзе «Нашай Нівы» будзе таксама аднэй з тэмаў сёлетняе 17-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

**Скарынінская выстаўка ў Атаве**

Аддзел ЗБК у Атаве, як і папярэднімі гадамі, браў сёлета ўдзел у Міжнародным Фэстывалі, які адбыўся 18-20 красавіка. Сп-тва Сурвілы наладзілі на фэстывалі беларускі павільлён, атракцыяй якога была выстаўка, прысьвечаная Францыску Скарыну, першадрукару Беларусі і Ўсходняе Эўропы.

**Асамблея Канадзкай Этнакультурнай Рады**

Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, да якога належыць і ЗБК, уваходзіць у склад Канадзкае Этнакультурнае Рады як адзін з 32-х сяброў гэтае арганізацыі.

Сёлета ў Атаве 13-15 чэрвеня адбылася штодвухгадовая асамблея КЭР. Дэлегатамі ад ККБК былі: старшыня ККБК др. Барыс Рагуля, старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч і старшыня Арганізацыі Моладзі Каднады сп-чна Марыя Сурвіла. У асамблеі брала ўдзел і сп-ня Івонка Сурвіла як сябра ўправы КЭР. У новую ўправу КЭР ад Беларусаў увайшла сп-чна Марыя Сурвіла.

Адно з найважнейшых заданьняў Канадзкай Культурнай Рады — пераховўваньне этнакультурнае спадчыны і дбаньне пра інтарэсы кожнае этнакультурнае групы ў Канадзе.

*(Паводля «Камунікату» ГУ ЗБК за першую палову 1986 г.)*

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў АДЭЛЯЙДЗЕ (АЎСТРАЛІЯ)

**Сакавіковае сьвята**

Угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі былі адсьвяткаваныя 13-га красавіка. Сьвяткаваньне пачалося багаслужбай, у часе якое прыгожа пяяў хор, а царква была прыбраная жывымі кветкамі. Пасьля малебну старшыня Беларускага Аб'еднаньня Паўдзённай Аўстраліі сп. Янка Ролсан запрасіў усіх на супольны абед. Сп. Ролсан прачытаў рэфэрат на тэму дня, было прасьпявана некалькі песьняў. Сьвяткаваньне трывала да 5-й гадзіны.

**Пасадка дрэваў**

Адэляйда адзначыла сёлета сваё 150-годзьдзе. З гэтае нагоды на працягу лютага, сакавіка й красавіка ў горадзе адбываўся вялікі фэстываль, на які прыязджала брытанская каралева Альжбета II. У сьвяткаваньні ўзялі ўдзел прадстаўнікі шмат якіх нацыянальнасьцяў, якіх у Аўстраліі налічваецца 150.

У шматэтнічным парадзе, што прайшоў вуліцамі Адэляйды, узялі ўдзел і Беларусы. Кожная нацыянальная група паабяцала зрабіць што-небудзь на адзначэньне гэтага юбілею. Беларусы пастанавілі пасадзіць дрэвы ў мясцовым парку. Дзякуючы вялікім намаганьням нашага старшыні сп. Янкі Ролсана, нам было вызначанае месца для пасадкі дрэваў у раёне Геймарш недалёка ад беларускае царквы (БАПЦ) пры галоўнай дарозе.

У сераду 21 травеня ўраньні Беларусы прыбылі да работы. Пасадка пачалася ўва ўрачыстых абставінах. Былі запрошаныя госьці: мэр Гаймаршу, старшыня сьвяткавальнага камітэту, камісар этнічных справаў, інжынер праекту ўпрыгожваньня, старшыня этнічнае рады.

Мэр Гаймаршу сказала кароткую прамову аб тым, што пасаджаныя дрэвы будуць памяткай пра Беларусаў. Сп. Ролсан у кароткай прамове падзякаваў гасьцём, а сп. Станкевіч расказаў пра Беларусь: ейныя межы, апрычонасьць беларускага народу.

Пасьля таго як мэр пасадзіла адно дрэва госьці былі запрошаныя ў прыцаркоўную залю, дзе іх чакаў прыгатаваны нашымі жанчынамі пачастунак. Рэшта засталіся садзіць дрэўцы, якіх пасадзілі 145. Каля дрэваў будзе пастаўлены мэмарыяльны камень з надпісам у гонар Беларусаў Паўдзённай Аўстраліі.

**Акавіты**

# ДА ПЕРАПІСУ ЖЫХАРСТВА КАНАДЫ

Напярэдадні перапісу жыхарства Канады, які адбыўся 3-га чэрвеня сёлета, Згуртаваньне Беларусаў Канады й Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады разаслалі заклік да Беларусаў, каб яны падавалі пра сваё беларускае паходжаньне, з тлумачэньнем тых пытаньняў анкеты, што датычаць да паходжаньня й мовы.

«У мінулым, — кажацца ў заклікy, — дзеля шэрагу прычынаў некаторых Беларусаў запісвалі ў дакумэнтах і ў актах перапісу як прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, прыкладам, польскае або расейскае. Мы павінны зрабіць усе намаганьні, каб гэткія памылкі больш не паўтараліся».

# СЯРЭБРАНЫ ЮБІЛЕЙ

Беларускае грамадзтва ды іншанацыянальныя сябры ў Таронце мелі нагоду ўшанаваць нашую выдатную пару — Міколу й Марыю Ганькоў, рэлігійных і грамадзкіх працаўнікоў, зь іхным 35-годзьдзем шлюбу. Юбілей адсьвяткавалі ў сыботу 10-га травеня. Малебен падзякі Богу, пры ўдзеле вялікай грамады, адслужыў Першагіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай. У царкоўна-грамадзкай залі адбыўся банкет, а пасьля й танцы.

«Маладых» віншавалі: Старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч, старшыні арганізацыяў, а таксама было атрыманае й пісьмовае віншаваньне ад Прэм'ер-міністара Канады Браяна Малроні і яго жонкі Мілі. Ува ўсіх прынагодных прамовах госьці й гаспадары адзначылі выдатныя заслугі Міколы й Марыі амаль ува ўсіх галінах беларускага жыцьця на эміграцыі. Ім купілі добры падарунак і ці раз выклікалі на «горка» ды адсьпявалі «многая лета» і «сто год».

Арганізатарам сьвята — Куляшом, Целяшом і Рудніцкім — ад усіх гасьцей вялікая падзяка.

**К. Акула**

# У ГОНАР ДР. СМАРШЧКА

Трыццаць шэсьць гадоў мэдычнае працы др. М. Смаршчка ў гор. Мантысэла ў штаце Мінэсота знайшлі прызнаньне ў прысьвячэньні др. Смаршчку новае лячэбніцы (Monticello – Big Lake Community Nursing Home). Цырымонія прысьвячэньня адбылася ў красавіку сёлета. Ілюстраваны рэпартаж пра ўрачыстасьць зьмясьціла газэта «Монтысэло Таймс» (24.IV.86), адзначыўшы самаахвярную працу др. Смаршчка на становішчы лекара службы здароўя Мінэсотаўскага ўнівэрсытэту, а пасьля й дырэктара мантысэлаўскае лячэбніцы.

Газэта падала таксама некаторыя біяграфічныя весткі пра др. М. Смаршчка, які жыў у Польшчы, быў зьняволены ў нямецкім канцэнтрацыйным лягеры, а па вайне, прыбыўшы ў ЗША, ад 1950 году ўдала выконвае ў гор. Мантысэла свае лекарскія абавязкі.

# ПРЫВІД НАЦЫЯНАЛІЗМУ

Часапіс «Коммунист Белоруссии» (1986, №5) зьмясьціў артыкул-рэцэнзію праф. А. Залескага супраць кнігі гісторыка Канстантына Тарасава «Память о легендах: Белорусской старины голоса и лица» (Менск, выд. «Полымя», 1984).

Як піша Залескі, кніга Тарасава была прыхільна адзначана рэцэнзэнтамі і «на прылаўках кніжных магазынаў доўга не заляжалася». Аднак кніга гэтая, паводля Залескага, адзначаецца «вельмі вольнай манерай у насьвятленьні гістарычных падзеяў». Як галоўную загану кнігі Залескі адзначае «фактычнае адмаўленьне адзінства паходжаньня беларускага й расейскага народаў, імкненьне давесьці, быццам беларуская народнасьць узьнікла незалежна ад агульнасьці ўсходне-славянскіх плямёнаў, аб'еднаных у старажытнарускай Кіеўскай дзяржаве». «Гордасьць за наш агульнарускі набытак, за магутную дзяржаву тагачаснае Эўропы — Кіеўскую Русь, — піша Залескі, — у гэтай кнізе падменьваецца нерэальнай, хвальшывай гордасьцяй за беларускую народнасьць, якое тады яшчэ ня было».

Канцэпцыя пра супольнае паходжаньне Беларусаў, Расейцаў і Украінцаў з аднае старажытнарускае народнасьці, піша Залескі, склалася «ў войстрым змаганьні з рознага роду нацыяналістычнымі выкрыўленьнямі», і цяпер вось «гэтыя зады рознага роду фальсыфікацыяў узяўся перасьпеўваць К. Тарасаў».

Тарасаў, паводля Залескага, выказаў цэлы рад памылковых паглядаў у іншых пытаньнях. Гэтак, «зь нявыразных тэкставых фармулёвак кнігі Тарасава напрошваецца высновa, што і Смаленск, Бранск, Ноўгарад-Северскі ўваходзілі ў склад Беларусі».

Асабліва абурае Залескага імкненьне Тарасава «давесьці, што змаганьне ў XVI-XVIII ст.ст. за ўзьеднаньне Беларусі з Расейскай дзяржавай ня было гістарычна выпраўданае ды ня мела прагрэсыўнага характару».

«К. Тарасаў, — піша Залескі, — адмоўна ацэньвае і сам факт узьеднаньня Беларусі з Расеяй у канцы XVIII стагодзьдзя. Ён навет спрабуе падаць 'довады', якія быццам-бы сьветчаць, што палажэньне Беларусі ў складзе Расеі значна пагоршала... Аўтар паказвае толькі мікалаеўскую (цара Мікалая І-га — рэд. «Б-са») самаволю, русыфікатарства, але нічога ня кажа аб прагрэсыўных сілах Расеі, аб іхным уплыве на вальнадумства й культуру Беларусі».

Праф. Залескі (спэцыяліст партызанскага руху й быту на Беларусі у часе апошняе вайны) скрытыкаваў адначасна й тых, хто рэкамэндаваў кнігу Тарасава да друку: др. гістарычных навукаў З. Капыскага ды кандыдата філялягічных навукаў А. Мальдзіса.

**Я. З.**

# СЁМЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ АДБУДЗЕЦЦА Ў МЭЛЬБУРНЕ 6-10 СТУДЗЕНЯ 1987 ГОДУ

## ПЕРАВЫБАРНЫ СХОД БАЗА Ў НЬЮ-ЁРКУ

Сход адбыўся 18 травеня 1986 году. У прэзыдыюм былі выбраныя сп. сп. Г. Паланевіч і Ул. Русак. Была ўшанаваная памяць памерлых сяброў БАЗА: Міколы Кунцэвіча, Аляксея Грушы, Янкі Ніхаёнка, Язэпа Гуткоўскага й Андрэя Каптуровіча.

Старшыня аддзелу сп. Ал. Міцкевіч зрабіў справаздачу зь дзейнасьці аддзелу, а сп. М. Заморскі паінфармаваў пра стан фінансаў. Кантрольная камісія ў складзе сп.сп. Э. Рыжага й А. Мацукевіча сьцьвердзіла акуратнасьць справаводзтва. Уступаючай управе быў прызнаны абсалюторыюм з асаблівай падзякай старшыні сп. А. Міцкевічу. Новая ўправа выбраная ў складзе: А. Міцкевіч — старшыня, Ф. Бартуль — заступнік старшыні, К. Верабей — сакратар, М. Заморскі — скарбнік, Э. Рыжы — арганізацыйны рэфэрэнт і А. Мацукевіч - сябра.

## ПРА БЯДУЛЮ Й ГАРУНА

Англа-Беларускае Таварыства ў Лёндане адзначыць 4 кастрычніка сёлета 100-годзьдзе ад нараджэньня Зьмітрака Бядулі й Алеся Гаруна. У гэты дзень (сыбота) ў лёнданскай Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны адбудзецца сымпозіюм, на які выступяць з дакладамі прафэсары Арнольд Макмілін, Джэймс Дынглі й сп-чна Вера Рыч, ведамая перакладчыца беларускае паэзіі ў ангельскую мову.

## 100 НУМАРОЎ «ВЕСТАК»

Выйшаў 100-ы нумар бюлетэню «Весткі і паведамленьні аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Нью-Ёрк», датаваны 31 ліпеня 1986 году. Бюлетэнь, кожны нумар якога мае дзьве балонкі машынапісанага друку, пачаў выходзіць 26 лютага 1982 году. Выдае яго сп. Аляксандар Міцкевіч, старшыня ньюёрскага аддзелу БАЗА, ахвяроўваючы на гэтую справу шмат часу й працы. На апошнім справаздачна-перавыбарным сходзе аддзелу БАЗА сп. А. Міцкевічу была выказаная асаблівая падзяка за ягоную самаахвярную грамадзкую працу.

## «АБАПІРАЦЦА НА РОДНУЮ МОВУ»

**Пабываўшы ў Эстоніі**, ды азнаёміўшыся там із станам літаратурна-перакладніцкае справы, што стаіць у шмат разоў лепш як на Беларусі, карэспандэнт газэты «Літаратура і Мастацтва» Сяргей Шупа прыйшоў да гэткае высновы: «Думаецца, што спадзявацца на нейкі плён у галіне мастацкага перакладу на Беларусі можна будзе толькі тады, калі і ў нас вывучэньне (і выкладаньне) замежных моваў будзе абапірацца на родную мову». («ЛіМ», 30.V.86)

Цяпер замежныя мовы ў БССР вывучаюцца (і выкладаюцца) па-расейску.

# ПРАГРАМА

## 17-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, 30.VIII—I.IX.1986 г.

*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і Згуртаваньне Беларусаў Канады ветліва запрашаюць усіх прыбыць у Кліўленд, штат Агаё, у грамадзкі цэнтар «Полацак», каб супольна правесьці сёлетнюю Сустрэчу, прысьвечаную 100-годзьдзю Статуі Свабоды, 80-годзьдзю газэты «Наша Ніва» й змаганьню Беларусаў за свабоду. У пляне праграмы:*

**Сыбота, 30 жнівеня**

Гадзіны ўраньні

**7 — 11** — прыбыцьцё дэлегатаў і гасьцей у «Полацак» (11022 Webster Rd., Strongsville, Ohio 44136. Tel.: 216 238-3842).
**7:30** — сьнеданьне на «Полацку».
**9:00** — адчыненьне Сустрэчы, узьняцьцё сьцягоў.
**11:00** — сход вэтэранаў.

Гадзіны папаўдні

**12:00** — паседжаньне Рады БАПЦ.
**1:00** — гадавы зьезд Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі.
**2:00** — сэсія Рады БНР.
**5:00** — валейбольныя спаборніцтвы.
**6:30** — сымпозіюм, прысьвечаны «Нашай Ніве» (у гатэлі).
**9:00** — баль Сустрэчы (у гатэлі).

**Нядзеля, 31 жнівеня**

**9:30 ураньні** — багаслужба ў царкве Жыровіцкай Маці Божай.
**2:00 п.п.** — банкет Сустрэчы із сьвяткавальнай праграмай (у гатэлі).
**4:00** — канцэрт беларускіх песьняў і танцаў (у тым самым гатэлі).
**5:30** — вячэра ў «Полацку».
**8:30** — вечарына ў «Полацку».

**Панядзелак, 1 верасьня**

**8:30 ураньні** — нарада арганізацыяў, дэлегатаў і зачыненьне Сустрэчы.
**10:00 ураньні** — ад'езд удзельнікаў.

*У часе Сустрэчы адбудуцца выстаўкі мастацкіх вырабаў, кніжак, сувэніраў.*

*Даезд да гатэляў ад «Полацку» будзе забясьпечаны тым, хто прыбудзе на аўтобусах ці самалётам.*

*Па інфармацыю трэба зварачацца ў грамадзкі цэнтар »Полацак» на вышэй пададзены нумар тэлефону.*

**Арганізатары Сустрэчы**

# УДЗЕЛ У ЮБІЛЕІ СТАТУІ СВАБОДЫ

У Нью-Ёрку 4-6 ліпеня сёлета было вельмі ўрачыста адзначане 100-годзьдзе пабудовы Статуі Свабоды. Юбілей сьвяткаваўся разам зь 210-мі ўгодкамі незалежнасьці Злучаных Штатаў.



*«Васількі» пасля ўдзелу ў заключным канцэрце Юбілею Свабоды на стадыёне Джаентс у штаце Нью-Джэрзы.*

Беларускія арганізацыі, у тым ліку Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ды іншыя, узялі актыўны ўдзел у зьбіраньні грашовых фондаў на рэстаўрацыю Статуі.

Да ўдзелу ў аднэй з найбольшых урачыстасьцяў, што адбылася ў нядзелю 6-га ліпеня, у заключным канцэрце на спартовым стадыёне Джайэнтс (70 тыс. месцаў), была запрашаная група моладзі з танцавальнага ансамблю «Васілёк» для паказу беларускіх нацыянальных касьцюмаў.

Абраз беларускага мастака, сябры БІНіМу, сп. Пётры Міранnetworkовіча «Імігранты» быў адным з экспанатаў на мастацкай выстаўцы, наладжанай з нагоды юбілею на Эліскім абтоку, што знаходзіцца недалёка ад Статуі Свабоды і праз які сваім часам праехалі тысячы беларускіх імігрантаў ў Амэрыку.

Перад удзелам у заключным канцэрце на стадыёне, таго-ж самага дня, ансамбль «Васілёк» выступіў зь беларускімі народнымі танцамі ў Парку Свабоды, што недалёка ад Статуі Свабоды.

**Эма Лазарус**

### НОВЫ ВОЛАТ

*Не як мядзяны волат грэцкай даўніны,*
*Што ўстаўшы над вадой быў вартаю краіны, —*
*На захад сонца, ў нас над акіянам сінім*
*Устала волат-жонка. Ў ейнай далані*
*Паходня, ўся ў маланкавым агні.*
*«Выгнаных Маці» ёй імя — ня зьгіне*
*Ніхто, каго яна ўзялася бараніць.*
*І сочыць ейны зрок сьцяг берагоў няспынна,*

*Дзе сьняць двайняты-месты, што паабапал, сны.*
*«Захоўвай, Сьвет Стары, лад пыхі і маны»,*
*Яна як быццам кажа. «Мне-ж аддай бяздольных,*
*Галодных, скрыўджаных, прыгнобленых бядой,*
*І дай ім уздыхнуць, нарэшце, вольна*
*Тут, дзе гарыць мой зьніч над Брамай Залатой».*

**Пераклад Натальлі Арсеньневай**

*Эма Лазарус (1849-1887) напісала свой санэт, прысьвечаны Статуі Свабоды, у 1883 годзе. Тэкст ягоны выгравіраваны на бронзавай табліцы ў сярэдзіне п'едэсталу Статуі. Асабліваю папулярнасць набылі апошнія радкі вершу, якія часта цытуюцца.*

# ПЯЕ ДАНЧЫК

Новая кружэлка маладога, але ўжо досыць ведамага беларускага сьпевака Данчыка (Багдана Андрусышына) пад заг. «Я ад вас далёка», бязумоўна, вартая ўвагі кожнага аматара ня толькі беларускай музыкі.

Эстэтычнае вонкавае афармленьне, выдатнае гучаньне, дзякуючы першакляснай тэхніцы запісу, удалы падбор і высака-мастацкае апрацаваньне песьняў — усё гэта вымагае шчырай падзякі ініцыятыўнай групе беларускага грамадзтва ў Нью-Ёрку, якая не пашкадавала высілкаў і грошай, каб выдаць кружэлку.

Але галоўнае, што робіць гэтае выданьне аздобай кожнай фанатэкі — гэта голас Данчыка, які ліецца, як чысты й вольны струмень, выразна выяўляючы паэтычны сэнс тэксту.

Данчык мае лірычны тэнар шырокага дыяпазону, надзвычай прыемнага, мяккога, пяшчотнага тэмбру, добрае дыханьне, тонкі слых, які дазваляе яму ўхіляцца ад інтанацыйных недарэчнасьцяў, выразную дыкцыю ды беззаганную беларускую вымову.

На кружэлцы запісана 12 песьняў рознага характару. Асноўны настрой патрыятычных песьняў («Я ад вас далёка», муз. Куліковіча, сл. Купалы; «Мой родны кут», муз. Лучанка, сл. Коласа; «Белавеская пушча», муз. Пахмутавай, сл. Дабранравава; «Зорачкі», муз. і сл. Новіка-Пяюна) — гэта замілаваньне да Бацькаўшчыны, туга па родным краі.

Данчык у сваім выкананьні даносіць да слухача элегічную лірыку мэлёдыі і патрыятычны ўздым тэкстаў песьняў.

Песьні рамансавага жанру («Ня шукай», муз. Любана, сл. Русака; «Бярозка», муз. Лучанка, сл. Вялюгіна; «Каханая», муз. Карповіча, сл. Ясеня; «Вы шумеце, бярозы», муз. Ханка, сл. Гілевіча) адзначаюцца любоўным і чулым падыходам сьпевака да інтэрпрэтацыі паэтычных вобразаў. Песьні гучаць шчыра, эмацыянальна насычана і лёгка даходзяць да слухача.

З трох народных песьняў («А ў полі вярба», «Перапёлачка» й «Лянок») найлепш Данчыку ўдалася чароўная «Перапёлачка». Добра прасьпяваць народную песьню зусім ня так проста, толькі голасам тут не абыдзешся. Стварыць мастацкі вобраз у народнай песьні куды больш цяжка як у рамансах ці опэрнай арыі, бо ў песьні сьпявак мае справу зь вельмі сьціслым і ляканічным мэлядыйным матар'ялам і ад інтуіцыі, фантазіі, густу й чуйнасьці сьпевака залежыць, ці ўзьнікне ў ягоным выкананьні адпаведны мастацкі вобраз, ці ён застанецца нераскрытым. Нескладаную, але поўную лірызму й затоенага суму мэлёдыю «Перапёлачкі» Данчык пяе цёпла й сардэчна, прыгожае суправаджэньне лёгка й асьцярожна падтрымлівае вакальную лінію, нідзе не пераабцяжваючы яе залішнімі інструмэнтальнымі эфэктамі. На добрым мастацкім узроўні гучаць і дзьве другія народныя песьні.

Інструмэнтальная апрацоўка песьняў (Алесь Кузычын і Юры Турчын) — мадэрная й цікавая, з выкарыстаньнем традыцыйных музычных інструмэнтаў (піяна, іскрыпка, гітара, мандаліна, ударныя) і электронных (сынтэсайзэр).

Суправаджэньне выразна й чульліва падтрымлівае асноўны настрой і нюансы тэксту, дапамагаючы стварыць цэласны мастацкі вобраз. Ня зусім дасканала збалянсаваныя вакальная ды інструмэнтальная лініі ў «Калыханцы», што парушае характар песьні.

Добрая падмога слухачу — укладка з выдрукаванымі поўнасьцю беларускімі тэкстамі песень і ангельскім перакладам зьместу вершаў.

Данчык — яшчэ малады сьпявак. Перад ім ляжыць даўгі шлях мастацкіх удачаў і ўпартай працы над голасам пад кіраўніцтвам дазнанага пэдагога. Вялікі нямецкі кампазытар-рамантык Робэрт Шуман пісаў у сваіх «Парадах маладому музыканту»: «Прыгожы голас — гэта найкаштаўнейшы дар нябёсаў». Данчык атрымаў гэты дар. Але каму шмат дадзена, ад таго шмат чакаеш. У Данчыкавым выкананьні хацелася-б пачуць больш дынамічных нюансаў, яшчэ большае выразнасьці ў фразіроўцы, больш тых ледзь прыкметных адхіленьняў ад вызначанага тэмпу, выкліканых музычным пераасэнсаваньнем паэтычнага тэксту, якія дадаюць інтэрпрэтацыі артыстычнае свабоды, што захапляе слухача. Хацелася-б параіць Данчыку ўключаць у свае праграмы больш беларускіх народных песьняў, бо гэтая невычарпальная крыніца мэлядыйнага багацьця амаль зусім не закранутая прафэсійнымі сьпевакамі.

Апошнім непараўнальным выканаўцам беларускай народнай песьні быў выдатны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі (памёр у 1981 г.). Усё сваё нялёгкае жыцьцё на чужыне ён аддаў пашырэньню беларускай песьні, якую

*(Закончэньне на б. 6-й)*

# ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗТВА

У выдавецкіх плянах Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва гатовыя да друку колькі навуковых манаграфіяў, бібліяграфічных працаў, твораў беларускіх пісьменьнікаў на эміграцыі ды ўспамінаў беларускіх дзеячоў. Ужо ў друку знаходзіцца «Бібліяграфія Скарыніяны» аўтарства др. Вітаўта Тумаша, выбраныя творы Міхася Кавыля, выбраныя творы Аляксандры Саковіч, манаграфія А. Адамовіча аб Алесю Салаўю ды чародныя кнігі «Запісаў».

Выдавецкія выдаткі БІНіМу дагэтуль пакрываліся дапамогай Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага, сяброўскімі складкамі ды прыбыткам ад продажу інстытуцкіх выданьняў. Аднак гэтых сродкаў будзе замала, каб зрэалізаваць выдавецкія пляны. Таму ўправа БІНіМу зварачаецца да шырокага беларускага грамадзтва з просьбай падтрымаць Выдавецкі Фонд Інстытуту пасільнымі ахвярамі.

Уважаем, што сёньняшняе беларускае грамадзтва выдатна разумее значаньне выдаваньня на Захадзе беларускіх кніжак ды наш заклік падтрымае.

**Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку**

## ПЯЕ ДАНЧЫК

*(Працяг з б. 5-й)*

заўсёды ўключаў у праграмы сваіх канцэртаў, куды-б яго ні закінуў лёс. «Распаўсюджваць родную песьню, несьці яе ў сьвет, паказаць ейную красу, даваць людзям радасьць ды ўзбагачаць гэтай песьняй сусьветную культуру» — гэткі быў запавет Забэйды-Суміцкага, і хацелася-б, каб Данчык зрабіў гэтыя словы сваім творчым крэда.

**Алесь Карповіч**

## ВОДГУКІ НА ДАНЧЫКАВУ КРУЖЭЛКУ

З трох лістоў зь Беласточчыны:

«Дзякуем за кружэлкі незабыўнага Данчыка!... Цяпер, як гаворыцца, у кожным культурным беларускім доме пачуеш сьпеў Данчыкаў, ён множыцца ў касэтках. Гэта і ёсьць добры прыклад разумнай помачы эміграцыі Бацькаўшчыне. Не прапаганда патрэбна, але ўзбагачэньне нацыянальнай культуры, а затым і глыбокай гордасьці за сваё!»

* * *

«Слухаем Вас кожную сыботу ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё, і здаецца нам, што Вы тут з намі. З задавальненьнем адзначаем, што на апошняй Вашай кружэлцы шмат песень пра Белавежу. Дзякуй, сардэчны дзякуй Вам за іх. Сьпявайце іх болей! Лябяць тут Вас, Ваш сьпеў, захапляюцца, плачуць. Цяжка паўстрымаць сьлязу, калі ўсплывае мілы сэрцу ўспамін або калі песьня пра роднае, дарагое. І то ў такім выкананьні!...»

* * *

«Песьні Данчыка я штораз часьцей чую нават у дамах, якія калісьці і паху беларускага да сябе не падпускалі! Гэта радасная зьява».

* * *

Беластоцкая газэта «Ніва» (27.IV.86) у даўжэйшай і вельмі прыхільнай інфармацыі пра новую Данчыкаву кружэлку піша, што «сьпявак выбраў для яе песьні, так сказаць, з залатога фонду, песьні, якія цяпер вельмі папулярныя і ў БССР і ў нашым беларускамоўным асяродзьдзі».

Данчыка на Беласточчыне завуць «ньюёрскім Салавейкам».

* * *

Зь ліста зь Беларусі:

«Хочацца перадаць шчырую падзяку за цудоўныя песьні Данчыка, якія да глыбіні душы ўзрушылі ўсіх тых, хто пасьпеў ужо праслухаць іх. Праграма ўкладзена вельмі ўдала, першая й апошняя песьні («Я ад вас далёка» і «Зорачкі» — рэд. «Б-са») вельмі добра акцэнтуюць зьмест усёй плыты. 'Зорачкі' на многіх зрабілі вялікае ўражаньне. Усіх вельмі зьдзіўляе, як сьпявак, якому ніколі не давялося пабываць на Бацькаўшчыне, з такім пачуцьцём і зразуменьнем выконвае народныя песьні, як трапна інтэрпрэтуе і адчувае беларускі фальклёр».

## НА ФІЛЯТЭЛІСТЫЧНАЙ ВЫСТАЎЦЫ

У Чыкага ад 22 траўня да 1 чэрвеня сёлета адбылася міжнародная філятэлістычная выстаўка. Сп. Багдан Паўкэ выдаў з гэтае нагоды адмысловы канвэрт, упрыгожаны беларускай паштовай маркай (з рысункам Пагоні). Сп. Паўкэ таксама годна рэпрэзэнтаваў Беларусь на выстаўцы, прачытаў два разы даклад на тэму «Гісторыя філятэлістыкі ў Беларусі». Даклад суправаджаўся слайдамі з пэрыяду 1916-1922 гадоў, а таксама высьвятленьнем карты Беларусі. Даклад быў вельмі цікавы й зьмястоўны.

# ЗЬЕЗД ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БЕЛАРУСІ

23-24 красавіка сёлета адбыўся ў Менску IX-ты зьезд рэспубліканскае пісьменьніцкае арганізацыі, да якое належаць цяпер, як падала газэта «Літаратура і Мастацтва» (25.IV), «больш за 370 чалавек».

Даклад на зьезьдзе рабіў даўгагадовы старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Максім Танк. Даклад быў вытрыманы ў традыцыйнай форме пераліку аўтараў ды іхных твораў зь лёгкімі й неканкрэтнымі крытычнымі заўвагамі. У спрэчках па дакладзе, што праходзілі жвавей як на папярэднім зьезьдзе пяць гадоў таму (адлюстроўваючы гэтым новую гарбачоўскую адлегу) адзін прамоўца назваў Танкаў даклад «старой шкалярскай даведкай», запоўненай адно пералікам прозьвішчаў ды кнігаў.

Сваю «даведку» Максім Танк скончыў нараканьнем, «што тыражы большасьці нашых кніг і літаратурна-мастацкіх выданьняў у апошні час не растуць, а падаюць». Аналізам прычынаў гэтае зьявы Танк, аднак, шмат не займаўся. Ён згадаў адно «інэртнасьць» кнігагандлюючых арганізацыяў рэспублікі ды «якасьць літаратурнай прадукцыі», але даў адначасна зразумець, што прычыны ня толькі ў нізкой якасьці. «Бо, — зазначыў дакладчык, — калі лічыць вінаватай саму мастацкую літаратуру, то чаму-ж тады не атрымлівае належных тыражоў так патрэбная ўсім даведачная літаратура на беларускай мове — такія ўнікальныя энцыкляпэдычныя выданьні, як 'Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі', 'Энцыкляпэдыя літаратуры і мастацтва Беларусі', 'Купалаўская энцыкляпэдыя' і іншыя?»

На гэтым нараканьні справа й скончылася. Ці з гэтага нараканьня выйдзе палепшаньне, можна меркаваць паводля Танкавае заявы ў тым-жа дакладзе. «Ужо не аднойчы, — сказаў Танк, — літаратурнай грамадзкасьцю ставілася пытаньне аб вяртаньні ранейшых аб'ёмаў нашым літаратурна-мастацкім часапісам. Аднак справа ні зь месца»...

У сваёй рэзалюцыі зьезд беларускіх пісьменьнікаў у ліку іншых пунктаў запісаў і гэткае: «дамагацца паляпшэньня выкладаньня роднай мовы і літаратуры ў агульнаадукацыйнай школе, прафтэхвучылішчах і вышэйшых навучальных установах рэспублікі».

Куды цікавейшымі за Танкаў даклад былі выступленьні ў дыскусіях. Некаторыя выказваньні былі войстрыя і, як на савецкі афіцыйны форум, сьмелыя. Гаварылі пісьменьнікі ня толькі пра патрэбу палепшыць літаратурную прадукцыю, але й пра больш наважанае змаганьне зь бюракратызмам на культурным полі, павышаную ўвагу да гісторыі роднага краю, шырэйшыя магчымасьці для нацыянальнае драматургіі, патрэбу павялічэньня тыражоў, заснаваньне свайго літаратурна-крытычнага часапісу.

Паводля справаздачы мандатнай камісіі, у Саюзе пісьменьнікаў Беларусі цяпер: празаікаў — 196, паэтаў — 153, аўтараў дзіцячых твораў — 72, драматургаў — 38, крытыкаў і літаратуразнаўцаў — 110, перакладчыкаў — 31.

Паводля свайго веку пісьменьнікі належаць да гэткіх групаў: да 30 гадоў — 7 асобаў, ад 31 да 40 гадоў — 52 асобы, ад 41 да 50 — 95, ад 51 да 60 — 98, ад 61 да 70 — 74, ад 71 да 80 — 39, старэй за 80 гадоў — 7.

# ПЕРАГЛЯД ПАДРУЧНІКАЎ ГІСТОРЫІ

У Ратгерскім Штатным Унівэрсытэтце ў гор. Нью-Бранსьвіку, штат Нью-Джэрзы, 15 красавіка сёлета адбылася канфэрэнцыя на тэму: «Веда пра Ўсходнюю Эўропу ў амэрыканскай сыстэме асьветы».

Канфэрэнцыю арганізавала Штатная Камісія да Гісторыі Ўсходняе Эўропы й Паняволеных Народаў у супрацоўніцтве із Штатным Аддзелам Асьветы ды Ратгерскім Унівэрсытэтам.

Штатная Камісія да Гісторыі Ўсходняе Эўропы й Паняволеных Народаў — першая гэткая камісія ў ЗША — была пакліканая губэрнатарам Нью-Джэрзы Томасам Кейнам для перагляду падручнікаў гісторыі сярэдніх школаў. У камісію ад Беларусаў уваходзіць др. Вітаўт Кіпель, які ўзначальвае ў камісіі сэкцыю кнігаведы й бібліяграфіі.

Канчатковае заданьне камісіі — даць справаздачу губэрнатару й Штатнаму Аддзелу Асьветы аб стане выкладаньня гісторыі народаў Усходняе Эўропы ды выпрацаваць рэкамэндацыі для палепшаньня гэтага выкладаньня.

Дакладчыкамі на канфэнцыі былі настаўнікі як мясцовых школаў, гэтак і з цэлае краіны, бо пытаньне выкладаньня гісторыі народаў, зь якіх паходзяць Амэрыканцы, прыцягвае ўвагу шмат якіх штатаў ды Міністэрства Асьветы ў Вашынгтоне. Дарэчы, адным з дакладчыкаў быў заступнік міністра асьветы ЗША др. Гары Баўэр.

Пытаньне гісторыі Беларусі ў падручніках сярэдніх школаў было закранутае ў шэрагу дакладаў, але найбольш у выступленьні праф. (Эстонца) Рэйны Тагэпары з Каліфорніі. Праф. Тагэпара падкрэсьліў, што гісторыя Беларусі пары Вялікага Княства Літоўскага адзначаная толькі ў лічаных падручніках і гэтаксама адно ў кольках падручніках адзначана, што незалежнасьць Беларусі была абвешчаная перад утварэньнем БССР.

Др. Тадэуш Грамада, старшыня камісіі, у заключным слове сказаў, што канчатковыя рэкамэндацыі будуць шырака апублікаваныя й разасланыя ўсім штатным аддзелам асьветы. Цяпер камісія занятая рыхтаваньнем бібліяграфіі англамоўных матар'ялаў пра краі Ўсходняе Эўропы. Бібліяграфічны дапаможнік будзе рэкамэндаваны для ўжытку ў сярэдніх школах.

У канфэрэнцыі ўзяло ўдзел панад 200 настаўнікаў і школьных адміністратараў.

У часе канфэрэнцыі адбывалася выстаўка неангламоўных друкаў Амэрыкі, на якой быў таксама й беларускі стэнд.

**В. Зубкоўскі**

## ВЫСТАЎКА МАСТАКА Л. ТАРАСЭВІЧА

У Лёндане ў галерэі Рывэрсайд Студыёс (раён Гамэрсьміт) адчынілася 6 траўня сёлета выстаўка мастакоў з Польшчы, у тым ліку й Лявона Тарасэвіча, Беларуса зь Беласточчыны. Сп. Тарасэвіч ужо ня першы раз выстаўляе свае творы ў Вялікабрытаніі. Летась ён рабіў выстаўку ў Эдынбургу, а на просьбу лёнданскіх Беларусаў прачытаў у Скарынінцы даклад пра сваю творчасьць, ілюструючы даклад слайдамі. Расказаў ён тады й пра паказ сваіх працаў у Стакгольме.

Пасьля выстаўкі ў Лёндане Л. Тарасэвіч пакажа свае працы ў гор. Бірмінгаме. Пазьней паедзе ў Вэнэцыю.

**А. З.**

## БЕЛАРУСКІЯ КАРАНІ ПРЭМ'ЕРА ГРЭЦЫІ

Матчынскі дзед сучаснага прэм'ера Грэцыі Андрэаса Папандрэу — Зыгмут Мінейка, аднагодак і школьны сябра Францішка Багушэвіча, быў родам зь Беларусі. Нарадзіўся З. Мінейка ў двары Балванішкі (сёньня в. Зялёны Бор) на Ашмяншчыне. У Грэцыю З. Мінейка трапіў у выніку свае рэвалюцыйнае дзейнасьці. З. Мінейка, уцёкшы зь сібірскае ссылкі ў Францыю ды, здабыўшы ў Парыжы асьвету археоляга, даўгі час жыў у Афінах. У яго было сямёра дзяцей. Мінейкава дачка Софія выйшла замуж за палітычнага грэцкага дзеяча Георгіяса Папандрэу. Ад гэтага сужэнства ў 1919 г. нарадзіўся сын Андрэас, сучасны прэм'ер-міністар Грэцыі.

Пра гэта расказаў гісторык Барыс Клейн у дакумэнтальным нарысе «Сямейны партрэт» у менскім часапісе «Неман» (1986, №4).

## ГРЭЦКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

Летась выйшла з друку другая заключная частка клясычнага грэцка-беларускага слоўніка Яна Пятроўскага (першая частка зьявілася ў 1983 г.). Гэта першы ў беларускай лексыкаграфіі ключ да багатае клясычнае спадчыны старое Грэцыі. Усяго ў дзьвюх частках слоўніка 572 балонкі. Сп. Яну Пятроўскаму належыцца шчырая падзяка за ягоную вялікую й каштоўную працу.

## НА ЭТНІЧНАЙ ВЫСТАЎЦЫ

У гор. Морыстаўне ў штаце Нью-Джэрзы ў гарадзкім музэі 5-га красавіка адчынілася 6-тыднёвая выстаўка на тэму «Этнічныя партрэты». Выстаўка была прысьвечаная выходу першае кніжкі ў сэрыі «Нью-Джэрзы: сёньняшняя этнічнасьць» ды ўшаноўвала мастакоў, умельцаў і звычайных жыхароў штату, якія далі матар'ялы-інтэрвію для кніжкі.

Ад беларускае групы ўдзел у выстаўцы, а таксама й кніжцы, узяла мастачка сп-ня Тамара Кольба (Ст. Тамара). На выстаўцы, якая, дарэчы, карысталася вялікай папулярнасьцяй, быў паказаны патрэт Тамары Кольба, а ў суправаджальнай інфармацыі аб жыцьці мастачкі ды ейнай прафэсійнай працы шмат гаварылася пра Беларусь.

## УДЗЕЛ У ФЭСТЫВАЛІ

У Бруклдэйльскім штатным каледжы ў штаце Нью-Джэрзы адбыўся 12-13-га красавіка фэстываль народнага ўмельства й этнаграфічнага мастацтва. Вельмі ўдала Беларусаў у фэстывалі прадстаўлялі сп-ні Тамара Кольба, Надзя Кудасава й Галіна Русак.

### НА КАНФЭРЭНЦЫЯХ

● На канфэрэнцыі дасьледнікаў сярэднявечнае літаратуры, што адбылася 10-11 траўня сёлета ў гор. Каламазу ў штаце Мічыган, сп-ня зора Кіпель узяла ўдзел у сэкцыі, прысьвечанай трыстаніяне.

● На 10-й канфэрэнцыі дасьледаваньня Прыбалтыкі, што адбылася 29-31 траўня ў гор. Мэдысане ў штаце Ўісконсын, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва др. Вітаўт Кіпель зрэфэраваў стан беларусаведных дасьледаваньняў у БССР і ЗША.

● На гадавым зьезьдзе Амэрыканскае Бібліятэчнае Асацыяцыі 29 чэрвеня сп-ня Зопа Кіпель прачытала даклад аб стане кампутарызаванае каталягізацыі кірылічных друкаў у Ньюёрскай Публічнай Бібліятэцы, ілюструючы свой даклад прыкладамі зь беларускае кніжнае прадукцыі й спэцыфікі каталягізаваньня беларускіх кніжак.

## СЬВ. † ПАМ. ВОЛЬГА СІЛЬВАНОВІЧ



Нарадзілася 18.X.1906 г. ў вёсцы Ціньцявічы на Вялейшчыне, памерла 1.I.1986 г. ў Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзы. Пахаваная на беларускім магільніку ў Іст-Брансьвіку. Сьв. пам. В. Сільвановіч была актыўнай удзельніцай беларускага грамадзка-рэлігійнага жыцьця ў Нью-Брансьвіку. Управа й сябры аддзелу БАЗА выказваюць шчырыя спачуваньні сям'і й родзічам Нябожчыцы. Вечная ёй памяць.

**Аддзел БАЗА ў Нью-Брансьвіку**

## СЬВ. † ПАМ. АЛЕСЬ САЛАВЕЙ



Памёр 29 студзеня 1986 г. ў Канадзе на 73-м годзе жыцьця пасьля вельмі даўгой і цяжкай хваробы. Вечная памяць.

Зь вялікім сумам застаёмся —

**жонка Галіна, дачка Арлета, сын Вальтэр і сям'я**

## СЬВ. † ПАМ. АНДРЭЙ КАПТУРОВІЧ

У гор. Рочэстэры, штат Нью-Ёрк, памёр 8.XII. 1985 г. дзейны сябра Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, былы кіраўнік царкоўнага хору ў саборы БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага, удзельнік беларускага культурнага жыцьця ў Нью-Ёрку ў 1950-60-х гадох.

Няхай будзе сьветлай памяць аб ім.

**Аддзел БАЗА Нью-Ёрк**

## СЬВ. † ПАМ. АЎГЕН ВЯРБІЦКІ

Сьв. пам. др. Аўген Вярбіцкі нарадзіўся 4 студзеня 1922 г. ў вёсцы Краснае каля Маладэчна, памёр 29 чэрвеня 1986 г. ў Філядэльфіі (ЗША). Нябожчык быў сябрам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, належаў да Ньюёрскае Акадэміі Навук, Амэрыканскага Хэмічнага Таварыства, Амэрыканскага Інстытуту Тэхналёгіі Ежы, Амэрыканскага Таварыства Мясное Прамысловасьці, быў ганаровым сябрам Амэрыканскага Таварыства для Прагрэсу Навукі, аўтарам працаў аб мэтадах перахоўваньня харчовых прадуктаў, піянэрам тэхналёгіі апраменьваньня (іррадыяцыі) харчовых прадуктаў. Пра перадчасную сьмерць др. Аўгена Вярбіцкага з сумам паведамляе й спачуваньні сям'і Нябожчыка выказвае

**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку**

## СЬВ. † ПАМ. ВАСІЛЬ ЗАХАРКЕВІЧ

Нарадзіўся 12.IX.1910 г. ў в. Сітніца Лунінецкага раёну на Палесьсі, памёр у Нью-Ёрку 2.VII.1986 г. Пахаваны 5-га ліпеня на магілках сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзы. Сьв. пам. Васіль Захаркевіч быў сьведамым Беларусам, актыўным удзельнікам грамадзка-рэлігійнага жыцьця на эміграцыі. Спачуваньні сям'і й родзічам выказваюць

**Прыхаджане і ўправа прыходу царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк)**

## СЬВ. † ПАМ. МЯЛЕНЬЦІ ЦІТОВІЧ

Памёр у Адэляйдзе (Аўстралія) у 73-гадовым веку па даўгой хваробе, пакінуўшы жонку, сына й дачку. Пахаваны на Стэрлінскім магільніку 35 км. ад Адэляйды. Няхай будзе яму пухам Аўстралійская зямля.

**В. Акавіты**

## СЬВ. † ПАМ. КСЕНАФОНТ ВАЙЦЯХОЎСКІ



Шчыры працаўнік і змагар у беларускай грамадзка-палітычнай дзейнасьці на Бацькаўшчыне і на чужыне, нарадзіўся 27.VIII.1899 г. ў в. Стары Сьвержань Стаўпецкага павету, памёр 15.V.1986 г. на 87-м годзе жыцьця ў Сан-Хозэ, штат Каліфорнія, пахаваны на беларускім магільніку ў Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзы, 19.V. 1986 г.

З глыбокім жалем паведамляюць

**Жонка й дзеці**

## СЬВ. † ПАМ. ФЭЛЯ ДАНІЛОВІЧ

Нарадзілася 1 чэрвеня 1904 г. ў вёсцы Гайлешы каля Крэва на Беларусі. Памерла 24 чэрвеня 1986 г. ў гор. Сулехуў у Польшчы. Наша сястра, братавая, цётка, аб сьмерці якое з глыбокім сумам паведамляюць

**брат Браніслаў,**
**братавая Аляксандра,**
**племяньнік Эдзік.**

Сьпі спакойна, няхай Табе сьніцца родная Беларусь. Вечная памяць.

## СЬВ. † ПАМ. СТАНІСЛАЎ ДАМБРОЎСКІ

Старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі неспадзявана адыйшоў у вечнасьць 16 лютага 1986 году. Нябожчык пакінуў у горы жонку Аўфрасіньню, сыноў Сяргея, Лява, Пётру, дачку Альжбету, зяца Рыка, нявестак Максіну, Карэн, Мэры і васьмёра ўнукаў.

**Сябры**

### ПАДЗЯКА

Усім, хто прыйшоў разьвітацца й правесьці ў апошні шлях сьв. пам. Ізыдара Гуткоўскага, шчырую падзяку выказвае

**Лідзія Дуржэнка й сям'я**

### ПАПРАЎКА

У папярэднім нумары «Беларуса» быў пададзены памылкова год нараджэньня сьв. пам. Дзімітра Верасава. Нябожчык нарадзіўся ня ў 1919-м, а ў 1909 годзе.

## НА ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| 1.Э. Жызьнеўская | $ | 100.00 |
| 2.Г. Салавей | | 100.00 |
| 3.Ю. Гасьцееў | | 60.00 |
| 4.В. і В. Рамук | | 60.00 |
| 5.К. Акула | | 60.00 |
| 6.Э. Пітушка | | 40.00 |
| 7.Я. і І. Арцюх | | 30.00 |
| 8.В. Цэлеш | | 30.00 |
| 9.А. Чарнэцкая | | 30.00 |
| 10.Я. Строк | | 30.00 |
| 11.О. Арэхва | | 25.00 |
| 12.С. Шабовіч | | 25.00 |
| 13.Г. Сінькевіч | | 25.00 |
| 14.К. Муха | | 25.00 |
| 15.В. Казлоўскі | | 20.00 |
| 16.М. Кунцэвіч | | 20.00 |
| 17.М. Шчорс | | 20.00 |
| 18.С. Кісель | | 20.00 |
| 19.В. Русак | | 20.00 |
| 20.В. Р. | | 20.00 |
| 21.З. Станкевіч | | 20.00 |
| 22.М. і К. Верабей | | 20.00 |
| 23.Я. Крэсла | | 15.00 |
| 24.В. Ярашэвіч | | 15.00 |
| 25.Н. Лапушынскі | | 15.00 |
| 26.А. Шукелойць | | 10.00 |
| 27.Я. Азарка | | 10.00 |
| 28.А. Мацукевіч | | 10.00 |
| 29.Л. Стагановіч | | 10.00 |
| 30.А. Непеін | | 10.00 |
| 31.П. Кажура | | 10.00 |
| 32.С. Гутырчык | | 10.00 |
| 33.М. Абрамчык | | 10.00 |
| 34.М. Тулейка | | 10.00 |
| 35.Т. Ст. Кольба | | 10.00 |
| 36.В. Захаркевіч | | 10.00 |
| 37.Я. Юхнавец | | 10.00 |
| 38.С. Груша | | 5.00 |
| 39.В. Стома | | 5.00 |
| 40.А. Сільвановіч | | 10. |
| | Разам: | 985.00 |

*Кліўленд (праз сп. А. Стрэчаня):*

| | | |
|---|---|---|
| 1.К. Калоша | $ | 50.00 |
| 2.А. Стрэчань | | 35.00 |
| 3.Я. Ханенка | | 20.00 |
| 4.А. Кананчук | | 20.00 |
| 5.М. Страпко | | 20.00 |
| 6.Ю. Гасьцееў | | 20.00 |
| 7.К. Каляда | | 20.00 |
| 8.Я. Каваленка | | 20.00 |
| 9.А. Яраховіч | | 20.00 |
| 10.С. П. | | 20.00 |
| 11.В. Яцэвіч | | 25.00 |
| 12.М. Лукашэвіч | | 18.00 |
| 13.А. Сацэвіч | | 20.00 |
| 14.Я. Раковіч | | 20.00 |
| | Разам: | 328.00 |

*Нью-Брансьвік (праз сп. Б. Даніловіча):*

| | | |
|---|---|---|
| 1.П. Драздоўскі | $ | 30.00 |
| 2.В. Балтрушэвіч | | 25.00 |
| 3.П. Талмачэвец | | 20.00 |
| 4.В. Стома | | 20.00 |
| 5.В. Машанскі | | 20.00 |
| 6.Г. Дубяга | | 15.00 |
| 7.І. Цупрык | | 15.00 |
| 8.З. Груша | | 10.00 |
| | Разам: | 155.00 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

*Праз. сп. М. Баяроўскага:*

| | | |
|---|---|---|
| 1.Я. Міхальчык | анг.ф. | 10.00 |
| 2.Ул. Карніловіч | | 10.00 |
| 3.П. Мятла | | 10.00 |
| 4.М. Баяроўскі | | 20.00 |
| | Разам: | 50.00 |
| 5.М. Яськевіч | анг.ф. | 6.00 |
| | і аўстр.д. | 10.00 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Сыднэй (праз. сп. М. Лужынскага):*

| | | |
|---|---|---|
| 1.М. Лужынскі | аўстр.д. | 50.00 |
| 2.С. Нарушэвіч | | 50.00 |
| 3.О. Качан | | 20.00 |
| 4.А. Бакуновіч | | 10.00 |
| 5.М. Бакуновіч | | 10.00 |
| 6.Я. Гавенчык | | 10.00 |
| 7.М. Зуй | | 10.00 |
| 8.М. Сазановіч | | 10.00 |
| 9.Н. Ярашук | | 10.00 |
| 10.А. Корсун | | 10.00 |
| 11.К. Сіткоўскі | | 10.00 |
| 12.В. Скавэцкі | | 10.00 |
| 13.Л. Грыцай | | 5.00 |
| 14.М. Ціхан | | 5.00 |
| 15.О. Тумашэўская | | 5.00 |
| 16.М. Антух | | 5.00 |
| 17.В. Пацко | | 4.00 |
| 18.В. Марчанка | | 2.00 |
| | Разам: | 236.00 |
| | у ам. дал. | 159.00 |

*Пэрт (праз. сп. А. Мароза):*

| | | |
|---|---|---|
| 1.А. Бразоўскі | аўстр.д. | 40.00 |
| 2.С. Дамброўскі | | 20.00 |
| 3.К. Чабатар | | 20.00 |
| 4.В. Раецкі | | 10.00 |
| 5.С. Масталеж | | 10.00 |
| 6.А. Ніжнік | | 15.00 |
| 7.А. Мароз (Малодшы) | | 20.00 |
| 8.К. Ёлаб | | 20.00 |
| | Разам: | 165.00 |
| 9.З касы Бел. Аб'едн. ў Зах. Аўстраліі | | 135.00 |
| | Усяго разам: | 300.00 |
| | у ам. дал. | 203.00 |

**Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком шчыры дзякуй!**

**Выдавецтва «Беларус»**

### ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

Адміністрацыя «Беларуса» гэтым квітуе артыманы ў жнівені летась ад сп. Ал. Лашука з Ангельшчыны (праз. сп. М. Абрамчыка) чэк на суму 296,26 дал. падпіскі на газэту ды выбачаецца за спазьненьне пасквітаваньня.

## У ДАРОЗЕ ДА ЎДАЧЫ



Тамара й Віктар — дзеці Аўгена й Сьвятланы Ніжнікаў, якія жывуць у Олбані ў Заходняй Аўстраліі. У 1981 г. Тамара скончыла Заходня-Аўстралійскі Тэхналягічны Інстытут і працуе цяпер хэмікам. На працягу 10 гадоў Тамара займалася балетам, здабывала мэдалі, любіць езьдзіць на каньках.

Віктар канчае цяпер тую самую ВНУ што й сястра, факультэт электронікі. На працягу трох гадоў Віктар быў чэмпіёнам у снукеры (від більярду) на Заходнюю Аўстралію. Спаборнічаў у танцах, здабыў шмат трафеяў і мэдалёў.

## НОВЫ СЬВЯТАР

У нядзелю 6 ліпеня 1986 г. ў царкву Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзы, сабралася вялікая колькасьць прыхаджан і гасьцей ня толькі з самога Саўт-Рывэру, але й з Пасэйку, Нью-Ёрку й Пэнсыльваніі. Прыехалі й сьвятары беларускіх праваслаўных парафіяў, бо гэта была ня звычайная нядзеля, гэта быў урачысты дзень Саўтрывэрскай парафіі.

У гэты дзень адбылося рукапалажэньне дыякана Мечыслава Брынкевіча ў сан сьвятара юрысдыкцыі Канстантынопальскай Патрыярхіі. Чын рукапалажэньня выканаў заступнік Архіепіскапа Якаваса, Экзарха Канстантынопальскага Патрыярха на Паўночную і Паўдзённую Амэрыку, Мэлейскі епіскап Філятэос.

У саборнай багаслужбе бралі ўдзел: прыбылы зь епіскапам а. Аляксандар Думорас; Пратапрасьвіцер Сьвятаслаў Коўш, настаяцель царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт-Рывэры і адміністратар Беларускае Царкоўнае Рады ў Паўночнай Амэрыцы; Архімандрыт Язэп (Строк), які часова замяняў а. Сьвятаслава; Мітрафорны пратаярэй Павел Вялікі, настаяцель беларускае праваслаўнае царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта (Канада); Пратаярэй Анатоль Сегін, настаяцель беларускае праваслаўнае царквы Сьв. Юр'я ў Чыкага (штат Іліной); а. Усевалад Шэмеціла, настаяцель беларускае праваслаўнае царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк) і Пратадыякан Алег Махнюк. У якасьці гасьця быў на службе Божай а. Сяргей Кухарскі з Амэрыканскае Праваслаўнае Царквы (Саўт-Рывэр).

У часе багаслужбы сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам Віталія Цярпіцкага, узбуйнены харыстамі зь іншых парафіяў.

У залі Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру з нагоды ўрачыстасьці адбыўся абед, у часе якога старшыня Царкоўнага Камітэту сп. Міхась Бахар прачытаў віншаваньні, якія з гэтай нагоды прыслалі: губэрнатар штату Нью-Джэрзы Томас Кейн, сэнатар Біл Брадлі, кангрэсмэн Бэрнард Дваер, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту сп. Іван Касяк, ад царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк), падпісанае сп. В. Шчэцькам і прыватнае віншаваньне ад Часлава й Юзі Найдзюкоў з Каліфорніі.

З вуснымі віншаваньнямі выступалі: Пратапр. Сьвятаслаў Коўш, сп. Кастусь Мерляк, а. Сегін, які таксама падзякаваў парафіянам за перададзеныя яму грошы на пабудову царквы ў Чыкага.

У ліку гасьцей быў і мэр Саўт-Рывэру сп. Рэджы Вылуда з жонкаю.

На заканчэньне новарукапаложаны а. Мечыслаў шчыра падзякаваў за аказаны яму гонар.

**Яз. Дольны**

## СЬВ. ПАМ. ЯНКА НІХАЁНАК

Селёта 4-га студзеня адышоў на вечны спачынак, пражыўшы 65 год, Янка Ніхаёнак — адзін зь першых Беларусаў, што прыбылі ў ЗША па Другой сусьветнай вайне. Пахаваны Нябожчык на могілках Пайнлон Мэморыял Парк у мястэчку Пайнлон на Лёнг-Айленьдзе, штат Нью-Ёрк.

Янка Ніхаёнак нарадзіўся 6.III. 1920 г. ў Амэрыцы ў штаце Вэрмонт. Ягоныя бацькі вярнуліся зь ім на Беларусь на пачатку 1920-х гадоў і ўладзіліся на сталае жыцьцё ў Лебядзеве каля Маладэчна. Там Янка правёў сваё маленства й маладосьць, набыў асьвету, а ў часе Другой сусьветнай вайны працаваў настаўнікам у народнай школе.

У 1944 г. Я. Ніхаёнак пакінуў Беларусь ды ў вельмі цяжкіх умовах дачакаўся ў Францыі канца вайны. У Францыі разам зь іншымі Беларусамі ўключыўся у грамадзка-нацыянальную дзейнасьць, супрацоўнічаў з а. Львом Гарошкам. Цягнула аднак у краіну, дзе нарадзіўся, і, як амэрыканскі грамадзянін, у чырвені 1947 г. Ніхаёнак прыбыў у Злучаныя Штаты.

Пабыўшы коратка ў Вэрмонце, у ліпені таго-ж году Ніхаёнак перабраўся ў Чыкага, увайшоў там у кантакт зь дзеячамі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Варонкам, Чарапуком ды іншымі, адразу-ж праявіў сваю ініцыятыву й запал да грамадзкай працы.

Праз год вандруе Янка назад пад Нью-Ёрк і затрымваецца ў Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзы, дзе было многа знаёмых ягоных бацькоў, якія некалі там жылі, ды невялікая група Беларусаў новае эміграцыі.

Я. Ніхаёнак наладзіў тут выданьне першага беларускага часапісу новай эміграцыі ў ЗША — «Беларус у Амэрыцы». У часапісе гэтым, першы нумар якога выйшаў у верасьні 1948 г., а апошні, чацьверты, у сакавіку 1949 г., друкаваліся артыкулы пра мэты й заданьні беларускае эміграцыі, заклікі да старой беларускай эміграцыі ў ЗША, палітычныя артыкулы, хроніка й пошукі.

Неўзабаве Янка Ніхаёнак перабіраецца з Саўт-Рывэру ў Нью-Ёрк, дзе ён ды піянеры Новай Беларускай Эміграцыі — інж. Мікола Гарошка, др. Янка Станкевіч, праф. Мікола Дарашэвіч — засноўваюць у 1949 г. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў ЗША (БАЗА). Ніхаёнак быў першым сакратаром БАЗА на працягу колькіх гадоў. Я далучыўся да яго ў 1949 годзе, і ў нашай супольна наймaнай гасподзе, спачатку на 100-й вуліцы ў Мангэтане, а потым на Бэльмонт авэню ў Брукліне, вялася ўся арганізацыйная праца.

Вялікая Ніхаёнкава дапамога была і ў царкоўным жыцьці. Янку зналі й запраўды любілі ўсе прыхаджане парафіі катэдральнага сабору ў Брукліне, асабліва ейны сталы апякун і кіраўнік сьв. пам. Архіепіскап Васіль.

Займаўся Янка й выдавецкай справай. Калі зарганізавалася беларуская студэнцкая моладзь у ЗША і пачала выдаваць свой часапіс «Віці», Янка быў адным зь ягоных рэдактароў. Гэтаксама шмат памагаў у выдаваньні першых нумароў газэты «Беларус».



Пры легалізаваньні беларускіх арганізацыяў — Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Скаўтынгу — Янка ўсюды падпісваўся як амэрыканскі грамадзянін на заявах і дакумэнтах.

Заўсёды мроіў аб заснаваньні сямейнага жыцьця, што й зьдзейсьніў, ажаніўшыся зь Ірэнай Макарэвіч у 1963 годзе. Ад таго часу Янка заняўся ўладжваньнем сямейнага жыцьця. Быў ён запраўды прыкладным мужам і бацькам дзяцей, якім аддаваў усю сваю ўвагу й энэргію. На нічога іншага яму не ставала часу дый часта меў клопаты із сваім здароўем. Ягоны дом быў заўсёды вельмі гасьцінны: Янка й Ірэна любілі бачыць у ім кожнага, хто завітаў. Найчасьцей бываў у іх брат Ірэны Ніхаёнак сьв. пам. Мікола Кунцэвіч. Амаль ува ўсе сьвяты бывалі й мы ў крузе іхнай сямейкі.

Гады міналі вельмі хутка. Дзеці Ніхаёнкаў падрасьлі, адна дачка выйшла замуж, а Янка з прычыны благога здароўя стаўся ў 60-гадовым веку пэнсіянерам і, не дачакаўшыся ўнукаў, на 65-м годзе аддаў душу Богу. Няхай-жа пухам яму будзе амэрыканская зямля, на якой нарадзіўся.

Гэткі вось быў жыцьцёвы шлях аднаго з найбольшых маіх сяброў. Шмат чаго ня менш важнага зь Ніхаёнкавага жыцьця мы ня ведаем, бо не пакінуў Янка па сабе ніякага апісаньня пройдзенага жыцьцёвага шляху. Нажаль, шмат зь кім так здараецца. Няхай-жа ў гэтым будзе навука ўсім жывым, каб яны пакінулі ўспаміны аб сваім жыцьці, бо ня жывем-жа мы для таго толькі, каб памерці, але й для таго, каб якісь сьлед нашага жыцьця застаўся.

Люты 1986 году.

**Міхась Тулейка**

## БЕЛАРУСІКА Ў ДРУКУ

**У часапісе Амэрыканскіх Вэтэранаў Замежных Войнаў** (тыраж 5 міліёнаў экз.), у сёлетнім травенскім нумары, у артыкуле «Саветы таксама маюць праблемы», згадваецца, што ў канцы 1950-х гадоў каля трох тысячаў беларускіх і ўкраінскіх работнікаў у Казахстане бралі ўдзел у забурэньнях ды што каля сотні зь іх былі расстраляныя.

**У амэрыканскім рэлігійным часапісе Plain Truth** («Чыстая Праўда», тыраж: 12 міліёнаў экз.), у нумары за ліпень-жнівень сёлетняга году аўтар артыкулу Кіт Стумп піша пра біблейскае паходжаньне слова «Русь» (ад гэбрэйскага слова «Рош», што значыць «бляндыны»). Словам гэтым, паводля Стумпа, старажытныя Гэбрэі называлі Русаў, якія пасяліліся на прасторах Усходняе Эўропы ў 9-м стагодзьдзі нашае эры. «Русы, — піша Стумп, — далі свой назоў і расейскай нацыі. Людзі племя Рош, кажа аўтар артыкулу, «жывуць сёньня сярод Беларусаў случаснае Беларусі».

**Пра беларускага інжынера зь 17 ст. Казімера Семяновіча** згадвае ў часапісе Ньюёрскае Публічнае Бібліятэкі «Спэцыяльныя калекцыі» (зімовы нумар за 1985/86 год) Вітаўт Кіпель у артыкуле пра аэранаўтычную літаратуру Бібліятэкі. Пра К. Семяновіча сказана, што ягоная пісаная палаціне праца (1650 г.), у якой гаворыцца пра магчымасьць падбаваньня ступенчатае ракеты (ангельскі пераклад быў зроблены ў 1729 г.), знаходзіцца ў кніжных фондах Бібліятэкі.

**Міхась Белямук. Вытокі беларускіх пячаткаў**. Кліўленд, Агаё, 1986. 47 бб. Тытульная балонка мае загаловак паангельску: Origins of Byelorussian Seals. У кніжцы — прадмова аўтара й тры табліцы з рэпрадукцыямі 21 пячаткі.

**The Year's Work in Slavonic Languages and Literatures. 1984.** На балонках 1075-83 гэтага брытанскага бібліяграфічнага гадавіка зьмешчаная бібліяграфія беларускіх моваведных і літаратураведных публікацыяў у БССР і Польшчы ў 1984 годзе. Агляд працаў зрабіла супрацоўніца Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане Шырын Акінэр. Добра абазнаная ў пытаньнях беларускае літаратуры й моваведы, др. Акінэр дала да бібліяграфіі сьціслыя, але ўнікліва крытычныя анатацыі.

**«Царкоўныя навіны»**, выданьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Таронта. №№ 2, 3 і 4 за 1986 год. У бюлетэні, апрача рэлігійных пасланьняў Архіепіскапа Мікалая («Вялікі пост», «Вялікоднае пасланьне») зьмешчаныя матар'ялы пра ход судовых справаў, хроніка. У нумары 3-м «Навінаў» пададзеныя фатастаты сьветчаньня Пятра Шышка супраць беларускіх «калябарантаў», а таксама артыкулу з газэты «Голас Радзімы» (20.II.86), у якім пра Любоў Шышко і ейнага мужа сказана, што жывуць яны ў Канадзе, але сэрца іхнае «там», г. зн. у савецкай Беларусі.

**«Зважай»**, часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Таронта. № 1/41 і 2/42 за сакавік і чырвень 1986 году.

Зьмест (№ 1/41): К. Акула — «Мінск і Пінск» (пра абмен лістамі аўтара артыкулу з часапісам «Тайм»); Язэп Барэйка — Гістарычна-батальны жанр у беларускім выяўленчым мастацтве XIX ст.; хроніка, нэкралёгі, ілюстрацыі.

№ 2/42: А. Гідоні — Чорная быль савецкае рэчаіснасьці; Язэп Барэйка — Гістарычна-батальны жанр у беларускім выяўленчым мастацтве XIX ст.; Біяграфічная даведка пра галоўнакамандуючага савецкімі наземнымі войскамі Аўгена Іваноўскага, Беларуса; рэцэнзіі на кнігі В. і З. Кіпеляў («Я. Купала й Я. Колас на Захадзе») і А. Бембеля («Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс»).